Т. М. Валынец, І. Э. Ратнікава, І. С. Роўда, П. П. Шуба

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Падручнік для 4 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з рускай мовай навучання

У дзвюх частках

**Частка 2**

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2008

УДК 811.161.3(075.2=161.1)
ББК 81.2Беи-922
В11

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра пачатковай адукацыі Установы адукацыі «Мінскі дзяржаўны абласны інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў» (канд. пед. навук, дац. кафедры, прарэктар па навуковай рабоце *А. С. Грабчыкава*);

доктар філалагічных навук, прафесар, дырэктар Дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі *А. А. Лукашанец*.

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

● — дадатковае заданне;

♦ — развіццё мовы;

 — падказка слоўніка.

**Валынец, Т. М.**

В11 Беларуская мова : падруч. для 4-га кл. агульнаадукац. устаноў з рус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 2 / Т. М. Валынец [і інш.]. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. — 112 с. : іл.

ISBN 978-985-465-354-9 (ч. 2).

**УДК 811.161.3(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-465-354-9 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-465-352-5**

# ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## ПРЫМЕТНІК. АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ




Цяжка знайсці тэкст, у якім не было б **прыметнікаў** — слоў, што дапамагаюць нам уявіць, які па сваіх якасцях той прадмет, што названы назоўнікам: не проста *сабака*, а *белы, пушысты, ласкавы сабака*, не проста *канапа*, а *новая, мяккая, шырокая канапа*.

**1.** Прачытайце. Пастаўце да прыметнікаў пытанні. Выпішыце прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца.

я к о е?
У з о р: *белае адзенне*.

Ёсць некалькі варыянтаў тлумачэння паходжання назвы Беларусь.

I. Белае адзенне даўніх вясковых людзей, белыя іх валасы, белы колер скуры.

II. Калі на нашы старажытныя славянскія землі прыйшлі татара-манголы, то здолелі адбіцца ад іх амаль адны толькі мы. І таму наша радзіма «белая», што значыць «чыстая ад нашэсця татараў».

*Паводле У. Караткевіча*

Словы, якія абазначаюць прымету прадметаў і адказваюць на пытанні я к і? я к о е? я к а я?, называюцца **прыметнікамі.**

У сказе прыметнікі звязаны з назоўнікамі: *яркае сонца, выдатная адзнака, высокі дом, новыя чаравікі.*

**2.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

1. Хвост пушысты, кажух залацісты, хітрай называюць, курэй ад яе хаваюць.
2. Улетку шэры, узімку белы, доўгія вушы мае, хутка ў лес уцякае.
3. Маленькае, залаценькае, а ўсё поле асвятляе.



• Назавіце прыметнікі, якія дапамаглі вам адгадаць загадкі.

**3.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца прыведзеныя словы.

Хол..д, х..лодны, хал..днець,
м..роз, м..розны, м..розіць,
в..сна, в..сновы, прадвесне,
в..сёлы, в..сёлка, вес..ліцца,
б..роза, б..розавы, б..рэзнік, падб..розавік,
лета, летні, леташні.

- Што абазначаюць словы *вясёлка, леташні, прадвесне*?

**4.** Прачытайце. Выпішыце аднакаранёвыя словы парамі па ўзоры, абазначце ў іх корань. У прыметніках абазначце таксама суфікс.

Узор: *шкло — шкляны.*

Зіма, цагля́ны, дуб, шкло, вечар, сталь, дубовы, вёска, шкляны́, цэгла, жалеза, сталёвы, гарадскі, жалезны, зімні, вячэрні, вясковы, горад.

**5.** Прачытайце. Адзін з назоўнікаў кожнага словазлучэння замяніце прыметнікам такім чынам, каб пры гэтым не змяніўся сэнс словазлучэння. Запішыце па ўзоры.

Узор: *хлеб з пшаніцы — пшанічны хлеб.*

Хлеб з пшаніцы, пярсцёнак з золата, дом з дрэва, гараж з цэглы, пячэнне з аўса, абутак са скуры, сцяна з каменю, караблік з паперы, нож са сталі, збан з гліны, суkенка з паркалю.



*Парка́ль* — рус. *ситец.*



**6.** Запішыце назвы (назоўнікі) намаляваных прадметаў і як мага больш прымет (прыметнікаў) да іх.

Узор: *заяц — белы, пушысты, баязлівы, даўгавухі, ...*



## Змяненне прыметнікаў па родах




Прыметнік заўсёды звязваецца з назоўнікам: які род у назоўніка, такі ж і ў прыметніка. Напрыклад: *сіні шар* (м. р.), *сіняя кветка* (ж. р.), *сіняе неба* (н. р.).

**7.** Прачытайце спалучэнні назоўнікаў з прыметнікамі.

| **Мужчынскі род** | | **Ніякі род** | | **Жаночы род** | |
|---|---|---|---|---|---|
| | які? | | якое? | | якая? |
| партфель | новы | паліто | новае | кніга | новая |
| лісток | сухі | дрэва | сухое | галінка | сухая |

● Якія канчаткі маюць прыметнікі ў мужчынскім, жаночым, ніякім родзе?

Прыметнікі змяняюцца па родах. Прыметнік мае той самы род, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны: *вялік[і] магазін* (м. р.), *вялік[ая] гара* (ж. р.), *вялік[ае] акно* (н. р.).

Прыметнікі мужчынскага роду маюць канчаткі ***-ы, -і,*** жаночага — ***-ая, -яя,*** ніякага — ***-ае, -ое, -яе.***

**8.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе.

*(белы)* воблака
*(цёмны)* хмара
*(ясны)* месяц
*(высокі)* дрэва
*(нізкі)* трава
*(густы)* куст
*(шырокі)* акно
*(саламяны)* лялька
*(прасторны)* дом
*(мяккі)* крэсла
*(пісьмовы)* стол
*(новы)* канапа

● Запішыце спачатку словазлучэнні з прыметнікамі мужчынскага роду, потым — з прыметнікамі жаночага роду і, нарэшце, — з прыметнікамі ніякага роду. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

**9.** Прачытайце. Спішыце. Абазначце род прыметнікаў і іх канчаткі.

м. р. м. р.

*Вялік[і] зялён[ы] кракадзіл* ляжаў на беразе малéнькага штучнага вадаёмчыка, зробленага для яго працаўнікамі заапарка. Калі кракадзіл паволі ссу-

нуўся ў мутную шэрую ваду, яго масіўнае цела стала нагадваць падводную лодку.

- Назавіце ў тэксце прыметнікі-антонімы.
- У якім склоне ўжываецца ў тэксце слова *кракадзіл*?

Каб лягчэй было вызначыць род прыметніка, пастаўце яго разам з назоўнікам, да якога адносіцца прыметнік, у форму назоўнага склону. Напрыклад: ***маленькага вадаёмчыка* — *маленькі вадаёмчык*** (м. р.).

♦ **10.** Складзіце невялікае апавяданне аб вашай любімай жывёліне. Пастарайцеся ўжываць як мага больш прыметнікаў.

**11.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыметнікаў. Да кожнага словазлучэння з левага слупка падбярыце супрацьлеглае па сэнсе словазлучэнне з правага. Словазлучэнні запішыце парамі. Абазначце род прыметнікаў і іх канчаткі.

| | |
|---|---|
| Высокі голас | нізкі рост |
| Высокая цана | нізкі голас |
| Высокі рост | нізкае дрэва |
| Высокае дрэва | нізкая цана |

**12.** Дапішыце канчаткі прыметнікаў, абазначце іх род.

Ярк.. сонца, цёмн.. хмара, бел.. воблака, густ.. туман, спорн.. дождж, лёгк.. ветрык, пушыст.. снег, сярдзіт.. завіруха, вячэрн.. зорка, сух.. надвор’е.

● Растлумачце значэнне слоў *лёгкі* і *сярдзіты* ў словазлучэннях *лёгкі ветрык* і *сярдзітая завіруха.* Падбярыце сінонімы да гэтых прыметнікаў.

**13.** Запішыце па тры назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Да кожнага з іх дапішыце некалькі прыметнікаў.

Узор: *камень — вялікі, шэры, цяжкі, ...*



**14.** Да наступных прыметнікаў падбярыце і дапішыце як мага больш назоўнікаў.

Вялікі ..., ..., ...
Вялікая ..., ..., ...
Вялікае ..., ..., ...

## Змяненне прыметнікаў па ліках




Калі назоўнік называе некалькі прадметаў, то ён ужываецца ў множным ліку. Прыметнік пры такім назоўніку таксама стаіць у множным ліку. Параўнаем: *нов*[*ая*] *сукенк*[*а*] — *нов*[*ыя*] *сукенк*[*і*].

**15.** Прачытайце. Выпішыце спачатку спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі ў адзіночным ліку, затым спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі ў множным ліку. Абазначце канчаткі.

Шчупак — рыба драпежная. Мае доўгі брускаваты стан, шырокія хваставыя плаўнікі, прадаў-

гаваты рот. Частыя і вострыя ў шчупакоў зубы. Ніякая здабыча вырвацца з іх не можа.

У шчупака вялікія цёмныя зоркія вочы. Здалёк бачыць ён сваю здабычу. Бруха мае белае. Плаўнікі — зеленавата-шэрыя.

*В. Мыслівец*

Прыметнікі змяняюцца па ліках. Прыметнік мае той самы лік, што і назоўнік, з якім прыметнік звязаны: *цікав*[*ая*] *нов*[*ая*] *кніга* — адзіночны лік, *цікав*[*ыя*] *нов*[*ыя*] *кнігі* — множны лік.

Прыметнікі множнага ліку маюць канчаткі ***-ыя***, ***-ія***.

**16.** Прачытайце. Пастаўце назоўнікі разам з прыметнікамі ў множным ліку. Запішыце, абазначце канчаткі прыметнікаў.

Зялёнае поле, шырокая рака, высокі бераг, сіняе мора, зімняя дарога, халодны вецер.




Заўважце! Канчаткі прыметнікаў усіх трох родаў у множным ліку аднолькавыя: *шырок*[*і*] *калідор* — *шырок*[*ія*] *калідоры*, *шырок*[*ая*] *дарога* — *шырок*[*ія*] *дарогі*, *шырок*[*ае*] *поле* — *шырок*[*ія*] *палі*, таму вызначыць род прыметнікаў, як і назоўнікаў, можна толькі ў адзіночным ліку.

**17.** Прачытайце. Дапішыце канчаткі прыметнікаў у множным ліку і абазначце іх.

Да аблокаў над ракой
гмахі ўзнімаюцца —
сін.., чырвон..,
жоўт.., зялён..,
бел.., ружов.. —
многакаляров..,
чыст.., празрыст..,
поўн.. святла.

*І. Муравейка*



*Гма́х* — высокі будынак.

**18.** Злучыце назоўнікі з прыметнікамі. Змяніце, дзе трэба, род і лік прыметнікаў і абазначце канчаткі.

Узор: *свеж*[*ы*] *хлеб*.

свежы — хлеб, газета, паветра

залаты — медаль, рукі, ніва

рэдкі — дождж, сетка, выпадкі

● У словазлучэнні *залатыя рукі* замяніце прыметнік *залатыя* яго сінонімам.

● У якім словазлучэнні да прыметніка *залаты* нельга падабраць сінонім?



**19.** Прачытайце. Спішыце. Абазначце лік назоўнікаў і прыметнікаў.

Я летні дзень намалявала,
я фарбаў не пашкадавала...
Зялёны лес ля сіняй рэчкі,
а там — чырвоныя парэчкі.
Каля гары бялее дом,
дах адлівае серабром,
а за гарой жаўцее жыта,
зямля ўся сонейкам заліта.

*І. Муравейка*

● Словамі якіх часцін мовы перададзены колеры дома, даху, жыта? Ці можна перадаць колер гэтых прадметаў прыметнікамі? Калі можна, то назавіце гэтыя прыметнікі.



*Пар́эчкі* — рус. *смородина.*

## Скланенне прыметнікаў




Прыметнікі, як і назоўнікі, змяняюцца **па склонах** — скланяюцца.

Прыметнік заўсёды стаіць у тым самым склоне, што і назоўнік, з якім гэты прыметнік звязаны.

**20.** Разгледзьце табліцу. Параўнайце канчаткі пытанняў і канчаткі прыметнікаў. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў кожным склоне?

# Скланенне прыметнікаў у адзіночным ліку

## Мужчынскі род

| | |
|---|---|
| Н. які? | высокі прыгожы дом |
| Р. якога? | высокага прыгожага дома |
| Д. якому? | высокаму прыгожаму дому |
| В. які? | высокі прыгожы дом |
| Т. якім? | высокім прыгожым домам |
| М. у якім? | у высокім прыгожым доме |
| Н. які? | дарагі родны чалавек |
| Р. якога? | дарагога роднага чалавека |
| Д. якому? | дарагому роднаму чалавеку |
| В. якога? | дарагога роднага чалавека |
| Т. якім? | дарагім родным чалавекам |
| М. аб якім? | аб дарагім родным чалавеку |

## Жаночы род

| | |
|---|---|
| Н. якая? | лясная ранняя кветка |
| Р. якой? | лясной ранняй кветкі |
| Д. якой? | лясной ранняй кветцы |
| В. якую? | лясную раннюю кветку |
| Т. якой? | лясной ранняй кветкай |
| М. на якой? | на лясной ранняй кветцы |

Ніякі род

| | |
|---|---|
| Н. я к о е? | жыв[ое] шчыр[ае] слова |
| Р. я к о г а? | жыв[ога] шчыр[ага] слова |
| Д. я к о м у? | жыв[ому] шчыр[аму] слову |
| В. я к о е? | жыв[ое] шчыр[ае] слова |
| Т. я к і м? | жыв[ым] шчыр[ым] словам |
| М. а б я к і м? | аб жыв[ым] шчыр[ым] слове |

● Звярніце ўвагу на тое, у якіх склонах канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду адрозніваюцца, а ў якіх склонах яны аднолькавыя і для мужчынскага, і для ніякага роду.

Каб вызначыць склон прыметніка, трэба вызначыць склон назоўніка, да якога гэты прыметнік адносіцца.

**21.** Вызначце склон выдзеленых прыметнікаў у наступных сказах. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

1. Праз **шурпатую** посцілку з рыжых іголак прабіваецца **зялёная** травіца.

*І. Грамовіч*

2. У **сінім** небе пад белымі аблокамі звініць песня **веснавога** жаўрука.

*І. Шамякін*

## Назоўны склон

**22.** Прачытайце. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў у назоўным склоне. Пастаўце націск у прыметніках. Літарай у дужках абазначце род назоўніка.

У з о р: *цёпл*[*ы*] *сух*[*і́*] *ле́тн*[*і*] *дзень (м. р.).*

Цёплы сухі летні дзень, роднае дарагое сіняе неба, доўгая глухая асенняя ноч.

**23.** Прачытайце. Спішыце. Вызначце склон і род выдзеленых прыметнікаў, абазначце ў іх канчаткі. З якімі назоўнікамі звязаны гэтыя прыметнікі?

**Не блакітнае, а чорнае** неба разляглося над намі ў Космасе.

Зоркі вісяць нізка над галавой. І кожная **буйная, яркая** зорка свеціць, як малюсенькае сонейка.

Над зямлёй узыходзіць **вялізнае, зыркае, белае** сонца. **Прыгожы блакітны** акіян абмывае з аднаго боку Амерыку, з другога — Азію. **Блакітная** Зямля павольна плыве ў чорным Космасе.

*Паводле П. Клімука*

- Падкрэсліце ў сказах дзейнікі.
- Што вы ведаеце пра аўтара гэтага апісання Космасу?



*Зы́ркі* — яркі, асляпляльны.

**24.** Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце з тэксту прыметнікі ў назоўным склоне разам з назоўнікамі. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

У ЛАГЕРЫ

У бары стаіць прыгожы казачны горад. Цёплае возера плешчацца каля высокіх соснаў. Тут адпачываюць дзеці з усёй рэспублікі.

Звонкая раніца пачынаецца гукамі вясёлага горна. Пад’ём, потым ранішняя зарадка, снеданне. Потым многа-многа розных спраў.

Доўгі летні дзень абяцае шмат цікавага.

Прыметнікі ў назоўным склоне мужчынскага роду маюць канчаткі ***-ы, -і,*** жаночага роду — ***-ая, -яя,*** ніякага роду — ***-ое, -ае, -яе***.



**25.** Спішыце, устаўце канчаткі.

Малад.. **бярозав.. лясок**, лёгк.. бел.. адзенне, **пахуч.. лугав..** кветка, мал.. дзіця, ільнян.. сін.. абрус, **блакітн..** пралеска.

- У выдзеленых словах абазначце суфікс.

## Родны склон

**26.** Запішыце спалучэнні слоў у родным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў. (Звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

**27.** Прачытайце. Спішыце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе і склоне. Абазначце канчаткі. Назавіце склон прыметнікаў. (Звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

1. Выйшаў з *(густы)* лесу. 2. Дрэвы гнуцца ад *(моцны)* ветру. 3. Прыехалі да самага *(сіні)* мора. 4. Тапола расла каля *(глыбокі)* возера. 5. Ста-

міўшыся пасля *(доўгі)* дарогі, не пі *(халодны)* вады. 6. Пасля *(доўгі асенні)* ночы наступае *(хмурны)* раніца. 7. Праз цэнтр *(новы)* пасёлка цячэ *(невялікі)* рэчка.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне маюць канчаткі ***-ога, -ага, -яга,*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**28.** Наступныя спалучэнні прыметнікаў з назоўнікамі пастаўце ў родным склоне.

Доўгі цень, малады сад, залаты медаль, белае воблака, чыстая вада, густая трава.



**29.** Спішыце, пастаўце прыметнікі ў патрэбным родзе і склоне.

Дзеці сабраліся каля *(стары)* млына. Гэта было самае *(любімы)* месца іх гулянак. Вакол *(зялёны)* мурог, а з *(правы)* і з *(левы)* боку *(густы)* жыта. З *(шаўковы)* травы пазіралі *(жоўты)* кветачкі. Тут з раніцы да *(позні)* вечара добра гуляць у хованкі.

*Паводле А. Кулакоўскага*

● Чаму трава названа *шаўковай*? Ад якога аднакаранёвага назоўніка ўтвораны прыметнік *шаўковы*?

● Назавіце словы з мяккім гукам [ц´] і цвёрдым гукам [ц].



*Муро́г* — маладая сакавітая зялёная трава.

## Давальны склон

**30.** Запішыце спалучэнні слоў у давальным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў. (Звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

> Прыметнікі ў давальным склоне мужчынскага і ніякага роду маюць канчаткі ***-ому, -аму, -яму,*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**31.** Дапішыце да дзеясловаў назоўнікі з прыметнікамі ў давальным склоне. Выдзеліце канчаткі прыметнікаў.

У з о р: *аддаць* (к а м у?) *старэйш|аму| брату*.

Аддаць (к а м у?) ..., прачытаць (к а м у?) ..., расказаць (к а м у?) ..., радавацца (ч а м у?) ..., прысвечаны (ч а м у?) ... .

**Словы для даведкі:** *старэйшы брат, маленькі хлопчык, дарагая мама, вясёлая песня, урачыстае свята.*

● Складзіце і запішыце два-тры сказы з утворанымі словазлучэннямі (на выбар).

**32.** Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі з прыметнікамі ў давальным склоне. Вызначце іх род. Спішыце, абазначце канчаткі прыметнікаў.

На змену цёпламу лету і дажджлівай восені прыйшла зіма. Дзень стаў кароткі, а вечар — доўгі. Сумна малой Тані. Бяжыць яна да дзеда. Той пачынае расказваць маломy дзіцяці казкі. А як пойдзе Таня ў школу, то сама будзе чытаць старому дзеду свае кніжкі.

**33.** Спішыце. Пастаўце прыметнікі ў давальным склоне, вызначце іх род.

*(Галодны)* зайцу выбіраць не прыходзіцца. Ён рады *(любы)* харчу. Удзень *(шэры)* палахліўцу трэба быць асабліва асцярожным. Ён сам можа папасціся на абед *(рыжы)* шэльме.

● Каго ў дадзеным выпадку называюць *рыжай шэльмай*?



*Ша́льма* — так называюць хітрага чалавека або звера (рус. *плут, плутовка*).

♦ **34.** Складзіце апавяданне пра лісу. Гэта можа быць выдуманая вамі гісторыя або казка. Пастарайцеся выкарыстаць як мага больш прыметнікаў.



**35.** Словазлучэнні пастаўце ў давальным склоне. Запішыце. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

Асенні дзень, летняя раніца, позні вечар, марозная ноч, халодны вецер.

## Вінавальны склон

**36.** Запішыце спалучэнні слоў у вінавальным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў. (Звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

Цёплы сухі летні дзень, роднае дарагое сіняе неба, доўгая глухая асенняя ноч.

● У якіх склонах канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду супадаюць?

**37.** Прачытайце. Спішыце сказы. Абазначце канчаткі прыметнікаў у вінавальным склоне. Пастаўце націск у прыметніках.

1. Нечакана мы папалі пад (я к і?) халодны восеньскі дождж. 2. Бацька запрог (я к о г а?) маладога прыгожага каня. 3. Я гляджу праз (я к о е?) чыстае малое акенца. 4. Паляўнічы ўбачыў (я к о г а?) рыжага лася. 5. Алесі купілі (я к у ю?) прыгожую сінюю сукенку.

Прыметнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ога, -ага, -яга,*** калі яны звязаны з назоўнікамі, якія абазначаюць жывую істоту; ***-ы, -і*** — ва ўсіх астатніх выпадках.

Прыметнікі ніякага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ое, -ае, -яе.***

Прыметнікі жаночага роду ў вінавальным склоне маюць канчаткі ***-ую, -юю.***

**38.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце дзейнік і выказнік. Абазначце род і склон выдзеленых прыметнікаў.

1. **Яркае** сонца выглянула з-за хмар. Я гляджу на **яркае** сонца толькі праз цёмнае шкло. 2. Ад будынка на снезе працягнуўся доўгі **цень.** Алесь памераў крокамі доўгі **цень.** 3. Снег засыпаў **школьны** двор. Дзеці выйшлі на **школьны** двор і пачалі зграбаць пульхны снег. Хутка **школьны** двор быў ачышчаны ад снегу.

Каб вызначыць, у назоўным ці ў вінавальным склоне стаіць прыметнік мужчынскага або ніякага роду, можна замест яго падставіць прыметнік жаночага роду: *убачыў лясны ландыш* (Н. ці В.?) — *убачыў лясную кветку* (В.). У прыметнікаў жаночага роду канчаткі ў вінавальным склоне не супадаюць з канчаткамі ў назоўным.

**39.** Пастаўце словазлучэнні ў вінавальным склоне. Складзіце з імі сказы і запішыце.

Родны бацька, стары чалавек, моцны вецер, жоўтая асенняя кветка, спелы яблык, сярэбраны медаль.

**40.** Прачытайце. Вызначце род і склон выдзеленых прыметнікаў.

Пад акном Насцінага дома расла **маладзенькая** яблыня. Вясною, калі яна цвіла, падняўся **моцны**

вецер. Ён так нагінаў і хістаў галлё, што адна галінка не вытрымала, надламалася. Пашкадавала Насця галінку: замазала глінай, абкруціла анучкай, быццам забінтавала рану.

Мінуў дзень, другі, а кветкі на галінцы не завялі. Над **белай** яблыняй звінелі залацістыя пчолы.

З’явілася завязь, а потым — і яблычкі. Яны раслі, наліваліся, пачалі ружавець.

У канцы лета яблыкі выспелі. Як ружовыя мячыкі, віселі яны, налітыя **салодкім** сокам. Сарвала Насця яблык, са смакам з’ела. І хоць на яблыні было шмат яблыкаў, самым **смачным** здаўся той, што вырас на яе, Насцінай, галінцы.

*М. Капыловіч*

● Дайце тэксту загаловак. Складзіце і запішыце план апавядання. Вусна перакажыце яго па плане. Пры пераказе ўжывайце прыметнікі.



**41.** Прачытайце. Спішыце першую частку тэксту. Дапішыце канчаткі прыметнікаў, абазначце іх род і склон.

## СЫМОН БУДНЫ

У Нясвіжы стаіць бронзав.. помнік. Яго акружае прыгож.. вянок з ліп і клёнаў. Гэта помнік беларуск.. асветніку Сымону Буднаму. Ва ўсім свеце вядома імя гэтага вялік.. гуманіста і вучонага. Ён працягваў асветніцк.. справу Скарыны.

Пасля заканчэння вучобы Будны пайшоў на настаўніцкую работу. Потым у Нясвіжы ён засна-

ваў невялікую друкарню. Там Будны і выдаў першую на Беларусі кнігу на роднай мове.

*М. Дзелянкоўскі*

● Разбярыце па саставе прыметнік *бронзавы*.



*Гумані́ст* — чалавек, прасякнуты любоўю да людзей.

*Асве́тнік* — той, хто нясе людзям веды.

## Творны склон

**42.** Прачытайце. Знайдзіце і назавіце прыметнікі творнага склону. Вызначце іх род (у адзіночным ліку).

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
вы ўстаяце перада мною!
І так панадна смеяцеся
жывою баграю па лесе,
і златаблескімі снапамі
праменяў-стрэлаў над палямі,
і брыльянцістаю расою...

*Якуб Колас*

**43.** Запішыце наступныя спалучэнні слоў у творным склоне. У прыметніках абазначце канчаткі.

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне маюць канчаткі ***-ым, -ім,*** жаночага роду — ***-ай, -ой, -яй*** або ***-аю, -ою, -яю.***

**44.** Прачытайце. Дапішыце ў сказы назоўнікі з прыметнікамі, пастаўце іх у творным склоне. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

Усё лісце з дрэў пазрывала … … . Дарогі занясло … … … . Праз замерзлую раку можна праехаць толькі … … . З … … прыйшла да нас зіма.

**Словы для даведкі:** *злосны вецер, сухі калючы снег, халоднае надвор'е, санная дарога.*

**45.** Перакладзіце сказы на беларускую мову, абазначце канчаткі прыметнікаў.

1. Синей лентой вьётся санная дорога. 2. Поздней зимней ночью началась метель.

● Параўнайце канчаткі прыметнікаў творнага склону ў рускай і беларускай мовах. У чым асаблівасць творнага склону назоўніка *ноч*?



**46.** Прачытайце. Выпішыце прыметнікі, вызначце іх склон.

БОСЫ КАРАНДАШ

Маляваў Багданка
алоўкам:
рэчку

чырвоным
і чырвоным клёны,
хату
зялёным
і зялёным коней,
жоўтым ката —
глядзець любата!
Маляваў сябе самога:
сінім
кашулю,
зялёным
штаны.
А дайшоў да ног —
маляваць не змог.
Сказаў маме:
— Ма,
босага карандаша няма.

*І. Струцюк*
*(пераклад В. Віткі)*

## Месны склон

**47.** Прачытайце верш І. Муравейкі. Вусна вызначце род і склон прыметнікаў, назавіце ў іх суфіксы і канчаткі.

Мы па плюшавай краіне
зробім першы ў казцы крок...
Вунь на плюшавай ляшчыне
скача плюшавы звярок.
Пад ляшчынай на траве,
плюшавай, пуховай,

мішка плюшавы храпе,
бачыць сон мядовы.
Ён паўдня блукаў па пушчы,
натаміўся і заснуў.
Каб не чуць нічога, вушы
мохам плюшавым заткнуў.

● З канчаткамі якога склону супадаюць канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне?
● З канчаткамі якіх склонаў супадаюць канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў месным склоне? (Звяртайцеся да табліцы на с. 13.)

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне маюць канчаткі ***-ым, -ім,*** жаночага роду — ***-ой, -ай, -яй.***

**48.** Прачытайце спалучэнні слоў і запішыце ў месным склоне. У прыметніках абазначце канчаткі.

Цёплы сухі летні дзень, лясное глыбокае сіняе возера, доўгая глухая асенняя ноч.

***мя́ккі***

**49.** Прачытайце словазлучэнні. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

Па тонк..м лядку, на сух..м лістку, у сін..м моры, аб прыгож..м возеры, на летн..й зары, на мякк..й падушцы.

● Вусна перакладзіце словазлучэнні на рускую мову. Параўнайце канчаткі меснага склону прыметнікаў у рускай і беларускай мовах.



**50.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў патрэбным склоне. Спішыце. Абазначце род і склон прыметнікаў.

Сонечны вераснёвы дзень. У *(залаты)* убранні маленькая бярозка. Трапечуць на *(асенні)* ветрыку нітачкі павуціння. На *(серабрысты)* нітачцы маленькі павучок.

Рэзка дыхнуў халодны вецер і адарваў ад *(тонкі)* галінкі *(серабрысты)* нітачку. Паплыла яна ў блакіце *(восенькі)* неба.

Можа, гэта павучок у вырай адлятае?

*Паводле Ф. Рамашкі*

## Скланенне прыметнікаў у множным ліку

**51.** Разгледзьце табліцу. Як скланяюцца прыметнікі ў множным ліку?

| **Адзіночны лік** | |
|---|---|
| высокі прыгожы дом *(м. р.)* | |
| **Множны лік** | |
| Н. якія? | высокія прыгожыя дамы |
| Р. якіх? | высокіх прыгожых дамоў |
| Д. якім? | высокім прыгожым дамам |
| В. якія? | высокія прыгожыя дамы |
| якіх? | дарагіх родных братоў |
| Т. якімі? | высокімі прыгожымі дамамі |
| М. аб якіх? | аб высокіх прыгожых дамах |

| Адзіночны лік | |
|---|---|
| сін\|яя\| паляв\|ая\| кветка *(ж. р.)* | |
| **Множны лік** | |
| Н. я к і я? | сін\|ія\| паляв\|ыя\| кветкі |
| Р. я к і х? | сін\|іх\| паляв\|ых\| кветак |
| Д. я к і м? | сін\|ім\| паляв\|ым\| кветкам |
| В. я к і я? | сін\|ія\| паляв\|ыя\| кветкі |
| я к і х? | дараг\|іх\| пяшчотн\|ых\| бабуль |
| Т. я к і м і? | сін\|імі\| паляв\|ымі\| кветкамі |
| М. а б я к і х? | аб сін\|іх\| паляв\|ых\| кветках |
| **Адзіночны лік** | |
| лёгк\|ае\| бел\|ае\| воблака *(н. р.)* | |
| **Множны лік** | |
| Н. я к і я? | лёгк\|ія\| бел\|ыя\| воблакі |
| Р. я к і х? | лёгк\|іх\| бел\|ых\| воблакаў |
| Д. я к і м? | лёгк\|ім\| бел\|ым\| воблакам |
| В. я к і я? | лёгк\|ія\| бел\|ыя\| воблакі |
| Т. я к і м і? | лёгк\|імі\| бел\|ымі\| воблакамі |
| М. а б я к і х? | аб лёгк\|іх\| бел\|ых\| воблаках |

Прыметнікі ў множным ліку па родах не змяняюцца.

**52.** Прачытайце. Выпішыце прыметнікі ў множным ліку разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Абазначце канчаткі прыметнікаў і вызначце іх склон.

### ЯК ЖЫЛІ ПЕРШАБЫТНЫЯ ЛЮДЗІ

Існаванне першабытных людзей залежала ад многіх абставін. Яны не ўмелі апрацоўваць зямлю. У іх не было свойскай жывёлы.

Прайшлі тысячагоддзі. Людзі навучыліся рабіць з вострага каменя прылады працы. З новымі прыладамі ды з вогнішчам першабытныя людзі сталі менш залежаць ад прыроды. Яны збіраліся ў вялікія гурты і палявалі на дзікую жывёлу. Людзі заганялі цэлыя статкі ў спецыяльныя пасткі. Дзякуючы гэтаму яны мелі свежае мяса, цёплыя шкуры для адзення.

*Паводле С. Тарасава*

**53.** Пастаўце назоўнікі *сяброўка, сваяк, дзень, дрэва* ў вінавальным склоне множнага ліку. Далучыце да іх прыметнікі *дарагі, блізкі, марозны, сухі* ў патрэбным ліку і склоне. Атрыманыя словазлучэнні дапішыце да наступных дзеясловаў.

Віншую … …, сустракаю … …, люблю … …, убачыў … … .

**54.** Прачытайце. Пастаўце прыметнікі ў тым жа родзе, ліку і склоне, што і назоўнікі, да якіх яны адносяцца.

Наша сталіца, горад-герой Мінск, гасцінна сустракае *(добры)* людзей. У сэрцах нашых гараджан

гарацць *(шчыры)* пачуцці дабраты і прыхільнасці да *(сумленны)* людзей усяго свету.

Мы любім нашу *(блакітны)* планету, сваю *(родны)* зямлю. І мы зробім усё, каб над яе *(зялёны)* палямі, *(шырокі)* рэкамі, *(сіні)* азёрамі было *(ясны)* неба і свяціла *(шчодры)* сонца. Каб тут заўсёды весела звінелі *(дзіцячы)* галасы.

*Паводле І. Шамякіна*

***гараджа́не***

● Спішыце другі абзац тэксту. Абазначце канчаткі прыметнікаў.



**55.** Прачытайце верш. Спішыце. Вызначце склон назоўнікаў і прыметнікаў. Абазначце канчаткі.

РЭХА

Рэха ходзіць па бары,
па густым па гушчары,
па карчах яловых,
па імхах шаўковых,
па дубах, па соснах,
па елках высозных.

*А. Лойка*

♦ **56.** Прачытайце. Складзіце і запішыце план тэксту. Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні да кожнага пункта плана.

ПА́ЦЕРКІ НА СНЕЗЕ

Дзед з унучкай Любачкай паехалі па сена. Стажок стаяў на ўзлессі. Летам тут расла высо-

кая трава, красавалі прыгожыя кветкі. Цяпер усё засыпана белым халодным снегам. І стажок — як вялікая снежная шапка.

Дзед наклаў сена на сані. Прыемна запахла сушанай травой. Раптам Любачка ўбачыла на снезе чырвоныя кропелькі. Нібы маленькія пацеркі. Што гэта?

Дзед растлумачыў, што гэта божыя кароўкі ў стажку зімуюць. Яны могуць замерзнуць.

Любачцы стала шкада божых каровак.

Яна сабрала іх у карабок ад запалак. Хай спяць да вясны. А вясной яна іх зноў выпусціць на зялёны луг.

*Паводле Ф. Рамашкі*

- Перакажыце тэкст па плане. Запішыце пераказ.



*Па́церкі* — рус. *бусы*.



**57.** Складзіце і запішыце словазлучэнні са слоў правага слупка, далучыце іх у патрэбным склоне да слоў левага слупка. Абазначце канчаткі прыметнікаў і іх склон. (Пры неабходнасці звяртайцеся да табліцы на с. 27.)

| | |
|---|---|
| жывуць у | *(чысты, прыгожы)* гарады |
| ма́раць аб | *(летні, сонечны)* дні |
| успышкі | *(яркі)* маланкі |
| стужкі | *(бясконцы)* дарогі |
| дарогі на | *(шырокі)* прасторы |
| лісце | *(малады)* дрэвы |

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што такое прыметнік?
2. З якой часцінай мовы звязаны прыметнікі ў сказе?
3. Як змяняюцца прыметнікі?
4. Як вызначыць род, лік і склон прыметнікаў?
5. Якія канчаткі маюць прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў назоўным склоне? Прывядзіце прыклады.
6. Якія канчаткі маюць прыметнікі множнага ліку ў назоўным склоне?

## ЗАЙМЕННІК




Пазнаёмцеся з **займеннікам** — верным памочнікам іншых часцін мовы. Называюць яго так таму, што ўжываецца ён замест слоў-назваў — імён. Напрыклад: ***Мы*** *любім* ***нашу*** *краіну і хочам, каб* ***яна*** *была магутная і шчаслівая.*

**58.** Прачытайце загадкі. На што ўказвае слова *ён* у першай, другой і трэцяй загадках?

1. **Ён** ні рук, ні ног не мае, але яблыкі страсае.
2. Хоць **ён** побач ідзе, а рукамі не возьмеш.
3. Хоць зубоў **ён** і не мае, а балюча нас кусае.

**Словы для даведкі:** *вецер, мароз, цень.*

**59.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Замест якіх слоў ужыта кожнае з іх?

Багата дзяцей у нашым двары. І ўсе **яны** ў адзін голас скажуць, што няма ў свеце лепшага знаўцы самалётаў, чым Янка. **Яму** не задача па сілуэце пазнаць марку самалёта, які ляціць у самым паднябессі. **Ён** не саб'ецца, пералічваючы імёны славутых лётчыкаў. Не ведаць, хто **яны** такія і што зрабілі, — значыць быць у Янкавых вачах чалавекам, нічога не вартым.

*Паводле М. Лынькова*

- Выпішыце выдзеленыя словы па ўзоры.

Узор: *яны (лётчыкі), яго (хлапчука).*

**Займеннік** — часціна мовы, якая ўказвае на асобу, прадмет, але не называе іх.

**Я, ты, ён, яна, яно** — займеннікі адзіночнага ліку. **Мы, вы, яны** — займеннікі множнага ліку.

**60.** Прачытайце жарт. Які загаловак да яго падаецца вам больш прыдатным: *Не разгубіўся, Просты адказ* ці *Нездагадлівая настаўніца*?

— Антось, ты напісаў вельмі добры пераказ. Але ён такі самы, як і ў Аліны. Што гэта значыць?

— Я думаю, гэта значыць, што яна таксама напісала вельмі добры пераказ.

- Назавіце займеннікі. Вызначце іх лік.

**61.** Разгледзьце малюнкі. Прачытайце сказы. На што могуць указваць займеннікі ў розных сітуацыях? Складзіце адпаведныя сказы з назоўнікамі.





**Ён** не заўважыў іх.





**Яна** падзякавала ім.

● Запішыце сказы з займеннікамі і складзеныя вамі сказы з назоўнікамі па ўзоры.

**У з о р.** *Яны не зводзяць з яе вачэй. — Вучні не зводзяць вачэй з настаўніцы. Бацькі не зводзяць вачэй з малой.*



Займеннікі дапамагаюць нам пазбегнуць паўтарэння адных і тых жа слоў: *З'явіліся першыя* ***кветкі****. Але не шукайце* ***іх*** *на* ***зямлі*** *—* ***яна*** *яшчэ пакрыта снегам.*

**62.** Прачытайце. Што вам не падабаецца ў гэтым тэксце? З дапамогай якой часціны мовы можна яго палепшыць?

Еўфрасіння Полацкая займае пач**э**снае месца ў нашай стар**а**жытнай гісторыі. Еўфрасіння Полацкая была першай асветніцай беларускай з**я**млі. Імя князё**ў**ны стала сімвалам імкнення да ведаў, таму імя князё**ў**ны перажыло стаго**ддз**і.

Князёўна таемна **ўц**якла ў манастыр. Там князёўна чытала, перапісвала кнігі і нават пісала летапісы.

*Паводле У. Бутрамеева*

- Спішыце тэкст з тымі папраўкамі, якія вы ўнеслі ў яго.
- Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



**63.** Прачытайце. Пры чытанні ўстаўляйце замест кропак патрэбныя займеннікі. Вусна вызначце іх лік.

## У СТРАХА ВОЧЫ ВЯЛІКІЯ

Кася з Янкам пайшлі ў бярозавы гай суніцы збіраць. Ідуць ... павольна, на ўсе бакі аглядаюцца.

— ... не бойся, Кася. Калі выскачыць воўк, ... цябе абараню, — гаворыць Янка сястры.

— А ... і не баюся, — адказвае ... . А ў самой сэрца стукае моцна-моцна.

*Паводле Л. Марціновіч*

## Займеннікі 1, 2, 3-й асобы

**64.** Прачытайце. Звярніце ўвагу, на каго ўказваюць займеннікі.

Дзядуля: Што **вы** рабілі, дзеці?
Міхась: **Мы** дрэвы садзілі.
Дзядуля: А што **ты** рабіў, Юра?
Юра: **Я** капаў ямкі.
Дзядуля: А што рабіў Вася?
Міхась: **Ён** дрэўцы падвязваў, каб вецер не зламаў.
Дзядуля: А дзе ж Люся з Мішам?
Юра: **Яны** паліваюць дрэўцы.

Займеннікі бываюць 1, 2, 3-й асобы.
**Я, мы** — займеннікі 1-й асобы.
**Ты, вы** — займеннікі 2-й асобы.
**Ён, яна, яно, яны** — займеннікі 3-й асобы.
Усе гэтыя займеннікі называюцца **асабовымі.**

**65.** Спішыце, падкрэсліце асабовыя займеннікі. Зверху абазначце іх асобу.

Казка — наш **добры** і верны сябар. Яна ідзе з чалавекам праз усё жыццё. І ты, і я — усе мы любім казкі. Часам цяжка прыходзіцца **працавітым** і сумленным казачным героям. Але яны перамагаюць. А мы радуемся за добрых людзей.

• Да выдзеленых слоў падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем. Запішыце парамі.

**66.** Прачытайце. Спачатку выпішыце сказы з займеннікамі 1-й асобы, потым 2-й, а затым 3-й.

1. Прыгожы вы, калгасныя палі, сваім багаццем і сваёй красою. 2. Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора буйных каласоў. 3. Ты цвіцеш, мой край чароўны. 4. Мы спяваем цудоўныя песні аб роднай старонцы. 5. Дзяўчынка палілá кветкі, і яны павесялелі.

**67.** Прачытайце тэкст. Перабудуйце ў ім сказы так, каб аднолькавыя назоўнікі не паўтараліся. Запішыце. Займеннікі падкрэсліце. Вызначце іх асобу, лік.

Другі дзень гудзе завіруха. Завіруха замяла вуліцы, дарогі, засыпала кармушкі. Міша і я ўспомнілі пра птушак. Міша і я пайшлі ў сад. Толя пайшоў з намі. Толя захапіў з сабою круп. Мы ачысцілі кармушку ад снегу, насыпалі хлебных крошак, круп. Птушкі не прымусілі сябе доўга чакаць. Птушкі смела ляцелі ў птушыную сталоўку.

А вы не забываеце пра крылатых сяброў?



**68.** Прачытайце тэкст. Выпішыце спачатку займеннікі 1-й асобы, потым 2-й, а затым 3-й. Дапішыце да займеннікаў назоўнікі, на якія яны ўказваюць.

Узор: *я — тэкст ..., ты — ...* .

Аднойчы тэкст, сказ і слова заспрачаліся, хто з іх самы галоўны для чалавека.

Тэкст сказаў: «Безумоўна, я. Я большы за вас. Без мяне нельга раскрыць думку».

Сказ запярэчыў: «Але ты складаешся са сказаў — значыцца, я самы галоўны!»

А слова не стала спрачацца. Яно вырашыла, што кожны вучань зможа пастаяць за яго. Высвятляць, хто з іх чалавеку больш патрэбны, — толькі час марна траціць. Ёсць і іншыя пытанні, над якімі цікава паразважаць. А вы каго падтрымаеце ў спрэчцы?



*Ма́рна* — дарэмна, упустую.

## Змяненне асабовых займеннікаў па склонах

**69.** Прачытайце. Назавіце займеннікі. Пастаўце да іх склонавыя пытанні і вызначце іх склон.

1. Ты не мог бы мне дапамагчы? 2. Без цябе я не спраўлюся. 3. Я дам табе анучку, каб сцерці пыл. 4. А яшчэ папрашу цябе паліць кветкі. 5. З табой мы хутка справімся. 6. Цяпер магу сказаць аб табе: ты мой лепшы **памочнік.**

- Запішыце выдзеленае слова. Запомніце яго напісанне.

***памо́чнік***

**70.** Разгледзьце табліцу. Паназірайце, як змяняюцца па склонах займеннікі ў адзіночным і множным ліку.

## Адзіночны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. хто? | я | ты | ён<br>яно | яна |
| Р. каго? | мяне | **цябе** | яго | яе |
| Д. каму? | мне | **табе** | яму | ёй |
| В. каго? | мяне | цябе | яго | яе |
| Т. кім? | мной<br>мною | табой<br>табою | ім | ёй<br>ёю |
| М. аб кім? | аба<br>мне | **аб**<br>**табе** | аб<br>ім | аб<br>ёй |

## Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. хто? | мы | вы | яны |
| Р. каго? | нас | вас | іх |
| Д. каму? | нам | вам | ім |
| В. каго? | нас | вас | іх |
| Т. кім? | намі | вамі | імі |
| М. аб кім? | аб нас | аб вас | аб іх |

**71.** Прачытайце. Знайдзіце займеннікі. Вызначце іх склон. (Пры неабходнасці карыстайцеся табліцай.)

У заапарку летам жылі вожыкі. Было іх шэсць. Яны былі як шэранькія шарыкі. Двое было большых. Гэта бацькі. А чатыры маленькія — іх дзеткі. Захацелася Рыгору прылашчыць вожыка. Ён прасунуў руку ў клетку і хацеў

яго пагладзіць. Вожык згарнуўся ў клубок і стаў калючы.

- Выпішыце займеннікі множнага ліку.
- Знайдзіце ў сказах аднародныя члены і назавіце іх.

**72.** Прачытайце. Выберыце адну з прапанаваных у дужках форм займенніка *ты.* (Пры неабходнасці карыстайцеся табліцай на с. 39.)

ГУТАРКА АСОТУ З КРАПІВОЮ

— Што ты штурхаеш мяне? — крычала Крапіва Асоту. — Ці я *(табе, цябе)* роўня? Нічога ты не робіш. Ніхто *(табе, цябе)* не ведае. А крапіву кожны ведае, кожны ўспамінае, на кожным падворку расту я.

— Як жа, — адазваўся стары Асот, — я расту далей, бачаць мяне людзі радзей, але мае шпількі даўжэй помняць ад крапіўкі.

Падслухала іх гутарку малая Марута і кажа:

— Не хваліцеся: абое вы рабое! Матулька казала, што абодвух вас з карэннем выдзера.

*Паводле А. Пашкевіч*

- Знайдзіце ў тэксце ўсе вядомыя вам займеннікі, вусна вызначце іх лік і склон.



*Абóе рабóе* — рус. *два сапога пара; одного поля ягоды.*



**73.** Прачытайце. Замест кропак устаўце займеннікі ў вінавальным, родным або давальным склонах. Запішыце сказы. Падкрэсліце займеннікі.

1. Калі ты спознішся, мы паедзем без … . 2. Ці зразумеў ты, што … трэба рабіць? 3. Скажы, хто … пакрыўдзіў? 4. Воля хоча, каб бацькі купілі … новую ляльку. 5. Я не змог пагаварыць з Ірай, таму што … не было дома. 6. Я б абавязкова дапамог, але ў … баліць рука.

**74.** Прачытайце, пастаўце займеннікі ў патрэбным склоне. Вызначце склон гэтых займеннікаў.

КРАБ

Краба я злаві**ў** і храбра
заха**ц**еў стаць сябрам краба.
Я *(ён)* сваю руку
прац**я**гнуў як сябруку.
Варухнуўся раптам кра**б**
ды *(я)* па пальцу — шкраб.
Бу**дз**е *(я)* з *(ён)* толькі гора.
Кіну сябра зноў у мора.

*П. Марціновіч*

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**75.** Змяніце сказы так, каб займеннікі ў іх стаялі ў родным або вінавальным склоне. Змест сказаў пры гэтым павінен захавацца.

Ты маеш прыгожую сукенку. — …
Яны цікавяцца гісторыяй. — …

Яна сёння адсутнічае. — …
Вы запрошаны ў госці. — …
Я маю верных сяброў. — …

● Запішыце першыя тры пары сказаў па ўзоры. Падкрэсліце займеннікі.

Узор. *Ён пакрыўджаны грубымі словамі. — Яго пакрыўдзілі грубыя словы.*

**76.** Прачытайце, што займеннік *вы* расказвае пра сябе.




Я ўказваю не толькі на некалькіх асоб. Розныя народы здаўна ўжывалі мяне пры ветлівым звароце да старэйшых. У лістах і паштоўках пішыце мяне з вялікай літары. Гэта знак павагі да чалавека.

**77.** Прачытайце ліст дзяўчынкі да яе цёткі. Заўважце, што слова *Ваш* таксама пішацца з вялікай літары.

*Дарагая цётачка Марына!*

*Нам вельмі шкада, што* ***Вы*** *так мала пагасцявалі. Мы без* ***Вас*** *сумуем. Нават Біму* ***Вас*** *не хапае. Ён ходзіць, апусціўшы хвост, пасля* ***Вашага*** *ад’езду. Ніхто не ўмее гэтак развесяліць усіх, як* ***Вы****.*

*Тата і мама шлюць **Вам** прывітанні. Калі **Вы** зноў да нас прыедзеце?*

*Ваша пляменніца Дзіна.*

● Напішыце ліст або віншавальную паштоўку свайму старэйшаму знаёмаму або сваяку. Не забывайце пісаць зварот *Вы* з вялікай літары.

**78.** Прачытайце працяг гісторыі з практыкавання 63. Змяняйце, калі трэба, займеннікі ў дужках, як патрабуе сэнс.

## У СТРАХА ВОЧЫ ВЯЛІКІЯ

Ідуць брат з сястрой па лесе. Страшна *(яны)*. А непадалёку ад *(яны)* затаілася пад кустом малое шэрае зайчанятка. Наставіла *(яно)* свае доўгія вушкі і слухае. Ці не ідзе паляўнічы са стрэльбай ды сабакамі?

Трэснула галінка. Зайчанятка спалохалася, падскочыла. Дзеці ўскрыкнулі і што было сілы кінуліся наўцёкі.

Дома маці пытаецца ўстрывожана:

— Што з *(вы)*?

— Страшэнны ваўчышча хацеў *(мы)* з'есці! *(Мы)* ледзь уцяклі ад *(ён)*.

А шэрае зайчанятка расказвае тым часам сваім братам:

— Гналіся за *(я)* паляўнічыя са стрэльбамі ды сабакамі. Толькі ногі хуткія *(я)* уратавалі.

*Паводле Л. Марціновіч*



**79.** Прачытайце, ужываючы замест слоў у дужках займеннікі.

ХТО ЧЫМ ЛАСУЕЦЦА

Мядзведзь вельмі любіць мёд. *(Мядзведзь)* часта нападае на жыллё дзікіх пчол. А іншы раз прабіраецца да вуллёў у сад. Пчолы адбіваюцца ад грабежніка. *(Пчолы)* джаляць *(мядзведзя)* у нос. Мядзведзь з усіх ног уцякае ад *(пчол)*. Любіць *(мядзведзь)* салодкае і мяккае карэнне дзікіх раслін.

Вавёрка любіць арэхі, шышкі, грыбы. Кожны грыб *(вавёрка)* нанізвае на галінку і сушыць. Так *(вавёрка)* робіць запас на зіму.

- Спішыце першы абзац. Падкрэсліце ўстаўленыя займеннікі.

## Правапіс прыназоўнікаў з займеннікамі

**80.** Прачытайце. Назавіце прыназоўнікі, якія адносяцца да асабовых займеннікаў.

КРОТ

Крот жыве ў зямлі. Сам ён з маленькае кацяня. Шкурка на ім чорная, аксамітная. Лапы ў яго маленькія, але дужыя. Крот амаль не бачыць. Затое вельмі добра чуе. Слых дапамагае яму хавацца ад небяспекі.

- Як пішуцца прыназоўнікі з займеннікамі?

Прыназоўнікі з займеннікамі заўсёды пішуцца асобна: *каля мяне, з табой, у яго, ад нас, перад вамі, пры іх*.

**81.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

Сябраваў *(з)* табой, глядзеў *(на)* яго, не адыходзіў *(ад)* яе, клапаціўся *(аб)* ім, адпачываў *(у)* вас, убачыўся *(з)* імі.

**82.** Прачытайце словазлучэнні. Замяніце ў іх назоўнікі адпаведнымі займеннікамі. Вызначце іх род і лік. Запішыце, як паказвае ўзор.

Узор: *пайсці з сяброўкай — пайсці з ёй (адз. л., ж. р.).*

Пасябраваць з дзяўчынкай, узяць у бібліятэцы, сядзець на дрэве, гутарыць з дзядулем, плаваць у возеры.

- Складзіце сказ з адным словазлучэннем (на выбар).

**83.** Прачытайце. Спішыце, раскрываючы дужкі. Падкрэсліце асабовыя займеннікі.

Дружба гэта *(у)* першым класе
*(у)* мяне *(з)* ім пачалася.
*(З)* ім я *(у)* полі, *(з)* ім *(у)* школе,
*(з)* ім не сумна мне ніколі.
*(З)* ім вандрую я *(па)* свеце,
*(з)* ім лятаю *(у)* ракеце.
Ён усё *(на)* свеце знае і ва ўсім дапамагае.
— Хто ж твой друг? — спытаўся Мішка.
І яму сказаў я:
— Кніжка!

*А. Русак*

**84.** Прачытайце сказы парамі. Словы ў дужках замяніце займеннікамі з прыназоўнікамі. Вусна вызначце іх асобу, лік і склон.

1. Нашага сабаку завуць Палкан. (У Палкана) белая поўсць з цёмнымі плямамі і кароткі хвост.
2. Да нас у госці прыехаў мой сябар Андрэй. Мы хадзілі (з Андрэем) у заапарк і планетарый.
3. У парку расце высокая бяроза. (На бярозе) вісіць кармушка для птушак.



**85.** Прачытайце і адгадайце загадку. Запішыце. Падкрэсліце займеннікі з прыназоўнікамі. Абазначце асобу займеннікаў.

Калі на небе сонца ззяе,
я ў даганялкі з ім гуляю.
Мы бегаем — аж пыл сцяной:
то я за ім, то ён за мной.
Ды не дагнаў ні разу, не —
ні я яго, ні ён мяне.

*І. Муравейка*

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Назавіце займеннікі, якія вы ведаеце.
2. Якая роля займеннікаў у маўленні? Прывядзіце прыклады.
3. Як змяняюцца займеннікі?
4. Калі займеннік *вы* трэба пісаць з вялікай літары? Чаму?

## ДЗЕЯСЛОЎ

**86.** Прачытайце.

Чорныя снегавыя хмары павольна плылі па небе. Раптам падзьмуў моцны вецер. Хмары зацягнулі ўсё неба і нізка павіслі над зямлёй. І вось ужо гуляе, свішча па зямлі мяцеліца. Трывожна шумяць і стогнуць сосны.

*Паводле Я. Галубовіча*

● Знайдзіце ў тэксце дзеясловы, пастаўце да іх пытанні і запішыце па ўзоры.

Узор: *шукае* (што робіць?).

Дзеясловы абазначаюць дзеянні і адказваюць на пытанні што робіць? што рабіў? што зрабіў? што будзе рабіць? што зробіць?

Дзеяслоў у сказе звычайна з’яўляецца выказнікам.

**87.** Прачытайце. Якія словы ў радках лішнія? Растлумачце чаму.

Гуляць, пагуляць, гульня, разгуляцца.
Паляваць, пільнаваць, пайсці, паляванне.
Чысты, **чысціць**, расчысціць, адчысціць.

● Складзіце сказ з выдзеленым словам і запішыце яго. Падкрэсліце ў сказе галоўныя члены. Якім членам сказа з’яўляецца дзеяслоў?

**88.** Да назоўнікаў падбярыце дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні названых асоб. Дапоўніце атрыманыя сказы даданымі членамі па ўзоры.

У з о р. *Скрыпач іграе на скрыпцы.*

| | |
|---|---|
| Дзяўчынка | фарбуе |
| Настаўнік | лечыць |
| Доктар | спявае |
| Маляр | будуе |
| Будаўнік | вучыць |

● Складзіце два сказы і запішыце іх. Падкрэсліце дзеясловы як члены сказа.

**89.** Прачытайце. Якую часціну мовы «згубіў» аўтар? Спішыце, устаўляючы ў тэкст патрэбныя дзеясловы.

Цяжка сказаць, колькі год гэтым елкам — сто, дзвесце ці болей. Яны ... утрох адна каля адной. Іх густыя зялёныя кроны высока ... у неба. Уверсе дрэвы ..., ... чорным голлем. Ні дождж, ні снег не ... праз гэты густы шацёр. Пад дрэвамі заўжды суха і ўтульна.

*Р. Ігнаценка*

**Словы для даведкі:** *стаяць, узнімаюцца, перапляліся, пераблыталіся, прабіваюцца.*

● Які тэкст вы запісалі — тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне? Як «працуюць» дзеясловы ў гэтым тэксце — расказваюць пра падзеі ці апісваюць дзеянні прадметаў?

♦ **90.** Разгледзьце малюнкі і складзіце апавяданне пра Святланку і Веснавушку. Раскажыце: 1) дзе і як сустрэліся Святланка і Веснавушка; 2) як выглядала Веснавушка і што яна рабіла ў лесе; 3) пра што размаўляла дзяўчынка з Веснавушкай; 4) як Веснавушка размалявала Святланчын тварык; 5) ці была Святланка гэтаму рада.









— Хочаш, я і табе падмалюю вяснушкі?



— Мамачка! Паглядзі, мне на твары Веснавушка намалявала вяснушкі!



— Прыходзь і на другі год! Я чакаць буду!

● Які тэкст вы склалі — апісанне ці апавяданне? Навошта вам патрэбны былі дзеясловы?

**91.** Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх сэнс. Успомніце, як пішацца ***не*** з дзеясловамі.

Работу словам *(не)* заменіш.
Хто чужога *(не)* шануе, той свайго *(не)* мае.
Учарашняга дня *(не)* вернеш.

♦ Прыдумайце гісторыю, якую вы маглі б закончыць прыказкай: *Работу словам не заменіш*.

**92.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст-апавяданне.

Лёгкі ветрык кранае завушніцы бярэзіны. І дрэва сыпле на дол жменю семак. Потым яшчэ жменю, яшчэ. Нібы з сяўні, сеяла бярэзіна насенне. Укрыла ім тратуар пад сабою.

Прахожыя пазіралі на тую мяцеліцу і здзіўляліся: на асфальце ж не прарасце ніводнае семка!

Усё ж адно прарасло. Ля тратуара, на вузкім шнурочку зямлі, устала маладзенькае дрэва.

*Я. Пархута*

● Прадоўжыце сказы і запішыце іх.

*Ветрык* (што робіць?) ... . *Дрэва* (што робіць?) ... . *Бярэзіна* (што зрабіла?) ..., ... . *Прахожыя* (што рабілі?) ... .



**93.** Спішыце прыказкі, устаўце ***не*** перад дзеясловамі. Як зменіцца сэнс прыказак?

Хто людзям верыць, таму і людзі веры даюць.
Пра лугі забудзеш — без сена будзеш.
Хто пчол даглядае, той мёд спажывае.

## Неазначальная форма дзеяслова

**94.** Прачытайце. Адкажыце на пытанне.

Сабраліся аднойчы дзеясловы *чытаць, чытаў, чыталі, чытае, чытаюць, будзе чытаць, будуць чытаць* і кажуць: «Усе часціны мовы ёсць у слоўніку. А чым мы горшыя за іншых? Трэба і сярод нас выбраць каго-небудзь, хто здолее прадстаўляць нас усіх у слоўніку». Доўга спрачаліся яны. Урэшце такі гонар выпаў дзеясловам, якія адказваюць на пытанне што рабіць? або што зрабіць? Напрыклад: *чытаць* (што рабіць?) або *прачытаць* (што зрабіць?). І імя ім далі асобае — **неазначальная форма дзеяслова**.

- Якая форма дзеяслова лічыцца неазначальнай?

Словы, якія адказваюць на пытанні што рабіць? што зрабіць?, — гэта **дзеясловы ў неазначальнай форме**. Яны заканчваюцца на *-**ць**, -**ці*** або *-**чы***: *ехаць, ісці, дапамагчы*.

**95.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да выдзеленых дзеясловаў. Запішыце дзеясловы разам з пытаннямі па ўзоры.

Узор: *паказаць* (што рабіць?), *звязаць* (што зрабіць?).

Міхась любіў зімой **сядзець** у парку на лавачцы і **назіраць** за жыццём птушак. Тут можна **ўбачыць** і вераб'я, і чубатага жаўрука. Ой, як

хочацца Міхасю **злавіць** якога-небудзь прыгажуна. Але птушак нельга **трывожыць.** Яны могуць **пакінуць** парк.

*І. Сямёнаў*

**96.** Прачытайце загадкі. Спішыце адну з іх разам з адгадкай. Падкрэсліце ў іх дзеясловы ў неазначальнай форме. Пастаўце пытанні да гэтых дзеясловаў (вусна).



1. Што можа ў адзін і той жа час стаяць і вісець, хадзіць і ляжаць, праўду сказаць?

2. Калі хочаш ты чытаць, то мяне павінен узяць.




**97.** Падбярыце да назоўнікаў роднасныя дзеясловы ў неазначальнай форме і запішыце іх.

**плыве́ц** **по́дпіс**

Узор: *дзень — дняваць.*

Ноч, плывец, вячэра, пераход, мароз, дапамога, подпіс.

**98.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце два сказы па кожным з іх, ужываючы дзеясловы *купаць, мыць* і *купляць, плаціць*.





● Сказы, якія вы склалі, запішыце.
● Перакладзіце на беларускую мову дзеяслоў *покупать*.

**99.** Прачытайце. Ад дзеясловаў у неазначальнай форме пастаўце пытанні да выдзеленых слоў.

Нельга выконваць дамашнія **заданні** ў неправетраным пакоі. Трэба праветрыць **памяшканне,** потым сесці **за работу.** Святло павінна падаць **злева.**

Спачатку трэба рыхтаваць больш цяжкія **прадметы.** Па мове і матэматыцы трэба выканаць спачатку вусныя, а потым пісьмовыя **заданні.**

● Выпішыце дзеясловы ў неазначальнай форме разам з выдзеленымі словамі.

Узор: *рыхтаваць* (што?) *прадметы*.

**100.** Складзіце словазлучэнні з дзеясловаў і назоўнікаў.

Падзякаваць (каму?) *(бацька, сястра)*, пайсці (па што?) *(кніга)*, пайсці (па каго?) *(брат, сястра)*, успомніць (аб чым?) *(лета, сад)*, прабачыць (каму?) *(сяброўка)*, смяяцца (з каго?) *(клоун)*, несці (што?) *(бервяно)*.

● Словазлучэнні, якія вы склалі, запішыце. Вызначце склон назоўнікаў.

***бервянó***



**101.** Замяніце спалучэнні слоў дзеясловамі ў неазначальнай форме. Запішыце па ўзоры.

Узор: *прымаць удзел — удзельнічаць.*

Весці размову — …, займацца маляваннем — …, выконваць праверку — …, зрабіць пераклад — …, вынесці падзяку — …, зрабіць прапанову — … .

**Словы для даведкі:** *маляваць, прапанаваць, размаўляць, падзякаваць, правяраць, перакласці.*

## Змяненне дзеясловаў па ліках

**102.** Параўнайце наступныя сказы. Чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго?

Дрэва расце. — Дрэвы растуць.
Хлопчык гуляе. — Хлопчыкі гуляюць.




Дзеясловы могуць абазначаць дзеянне аднаго або некалькіх прадметаў, адной або некалькіх асоб: *вішня цвіце — вішні цвітуць, настаўнік ідзе — настаўнікі ідуць*. У такім выпадку **дзеясловы змяняюцца па ліках.**

**103.** Прачытайце. Назавіце дзеясловы. Дзеянне аднаго ці некалькіх прадметаў яны абазначаюць?

Ціха на зямлю спускаецца ноч. Птушкі не спяваюць. Сонца зайшло. Край неба блішчыць шыро-

каю чырвонаю стужкаю. Тонкія, лёгкія хмаркі афарбаваліся ў залаты колер. Белаватаю плянёнкаю ўздымаецца туман над лугамі і балотамі. А цемната ўсё гусцее і закрывае ад вачэй поле і лес.

*Паводле Я. Коласа*

● Пастаўце пытанні да дзеясловаў і спішыце першыя пяць сказаў па ўзоры.

Узор. *Ціха на зямлю* (што робіць?) *спускаецца ноч.*

Дзеясловы змяняюцца па ліках.

У **адзіночным ліку** дзеяслоў абазначае дзеянне аднаго прадмета ці адной асобы. У **множным ліку** дзеяслоў абазначае дзеянне двух і больш прадметаў ці асоб.

**104.** Змяніце лік дзеясловаў. Запішыце.

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| *чытае* | *чытаюць* |
| піша | … |
| працуе | … |
| *ходзіць* | *ходзяць* |
| гаворыць | … |
| сядзіць | … |
| смяецца | … |
| плыве | … |

**105.** Спішыце, замяняючы дзеясловы адзіночнага ліку дзеясловамі множнага ліку. Адначасова замяніце лік назоўніка ці займенніка, які з'яўляецца дзейнікам.

### НА ЛЯСНОЙ СЦЯЖЫНЦЫ

Раніцай ішоў па сцежцы лось. Ён убачыў сагнутую б..розку. Паглядзеў лось на б..розку, саступіў са сц..жкі і абышоў падазроную м..сціну. Праз некалькі дзён л..сны жыхар прывыкне да гэтай б..розкі. І ён ужо не саступіць са сваёй сц..жынкі.

*Паводле Р. Ігнаценкі*

● Якія літары (**е** або ***я***) уставілі вы ў словы замест кропак? Растлумачце чаму.

**106.** Прачытайце. Знайдзіце дзеясловы множнага ліку. Выпішыце іх разам з назоўнікамі, якія з'яўляюцца дзейнікамі. Ад гэтых дзеясловаў і назоўнікаў множнага ліку ўтварыце дзеясловы і назоўнікі адзіночнага ліку.

Узор: *рыбкі плывуць — рыбка плыве.*

Радасна і сумна шалясцяць асіны,
радасна і шумна гамоняць дубы.
У кляновых лісцях віснуць павуціны,
у срабрыстых ніцях жоўтыя сады.

А халодны вецер лётае, сваволіць
і шуміць ля рэчкі, і шуміць трысцё.
Я ў далёкіх далях бачу радасць, волю,
хоць і гінуць кветкі, але ёсць жыццё.

*А. Куляшоў*

♦ **107.** Разгледзьце малюнак. Дайце імёны хлопчыкам і дзяўчынкам. Складзіце па малюнку невялікі тэкст (5—6 сказаў). Падбярыце да яго загаловак. Складзены тэкст запішыце. Вызначце лік дзеясловаў (вусна).





**108.** Прачытайце, устаўляючы ў сказы патрэбныя дзеясловы.

1. Вясна хутка *(прыйдзе, прыйдуць)* у край наш лясны. 2. Птушыныя звонкія спевы *(змаўкае, змаўкаюць)* у вячэрняй цішыні. 3. Як чырвоны агеньчык, з-пад снегу *(свеціць, свецяць)* ягадка каліны. 4. Дзень *(дагарае, дагараюць)*, і ціха *(знікае, знікаюць)* яго бляскі. 5. У чорных хмарах маланка *(зіхаціць, зіхацяць)* агнём.

● Спішыце сказы. Абазначце лік дзеясловаў.

Узор. *Вецер гоніць (адз. л.) па небе рэдкія белыя воблачкі.*

## Змяненне дзеясловаў па часах

**109.** Разгледзьце малюнак. Падкажыце хлапчукам, якія пытанні прывядуць іх спачатку ў мінулае, потым — у цяперашні час і, нарэшце, — у будучыню.




Дзеясловы ў цяперашнім часе адказваюць на пытанні ...? ...?; у прошлым — ...? ...? ...? ...?; у будучым — ...? ...? ...? ...?

- Дапоўніце сказ і запішыце яго.

Дзеяслоў змяняецца **па часах.** Ён мае тры часы: **цяперашні, прошлы** і **будучы.** Дзеясловы **цяперашняга часу** адказваюць на пытанні *што робіць? што робяць?*; **прошлага часу** — *што рабіў? што зрабіў? што рабілі? што зрабілі?*; **будучага часу** — *што зробіць? што зробяць? што будзе рабіць? што будуць рабіць?*

**110.** Запішыце дзеясловы: спачатку — прошлага часу, потым — цяперашняга часу і, нарэшце, — будучага часу.

Працую, працаваў, будзе працаваць; прынёс, прынясе; накорміць, накарміў; лечыць, будзе лячыць, лячыў; пашые, пашыў; жыў, жыве, будзе жыць.

**111.** Запішыце дзеясловы ў прошлым, цяперашнім і будучым часе. Пастаўце да дзеясловаў пытанні (вусна).

Узор: *ехаць — ехаў, едзе, будзе ехаць; прыехаць — прыехаў, прыедзе.*

Дзякаваць, падзякаваць, ствараць, стварыць, купляць, купіць, шукаць, знайсці.

Каб лягчэй было змяняць па часах дзеясловы, карыстайцеся наступнай памяткай.

| што рабіць? *весці* | | |
|---|---|---|
| Прошлы час<br>што рабіў?<br>*вёў* | Цяперашні час<br>што робіць?<br>*вядзе* | Будучы час<br>што будзе рабіць?<br>*будзе весці* |
| **што зрабіць? *прывесці*** | | |
| Прошлы час<br>што зрабіў?<br>*прывёў* | Цяперашні час<br>—<br>— | Будучы час<br>што зробіць?<br>*прывядзе* |

**112.** Змяніце дзеясловы па часах. Запішыце па ўзоры.

У з о р: (ш т о  р а б і ў?) *вёз*
(ш т о  р о б і ц ь?) *вязé*
(ш т о  б у д з е  р а б і ц ь?) *будзе везці*

Нёс, плёў.

● Пастаўце націск у дзеясловах цяперашняга і будучага часу. Растлумачце правапіс літар ***е, ё, я.***

**113.** Прачытайце. У які час (цяперашні ці прошлы) адбываюцца гэтыя падзеі?

Раніцай у лесе кукуе зязюля.
Бор шуміць вершалінамі хвой.

● Змяніце дзеясловы так, каб яны абазначалі: а) дзеянні, якія ўжо адбыліся; б) дзеянні, якія яшчэ будуць адбывацца.

**114.** Прачытайце. Выпішыце дзеясловы разам з назоўнікамі або займеннікамі, да якіх яны адносяцца. Пастаўце пытанні да дзеясловаў, абазначце іх час.

Ад подыху магутнага полымя шар узляцеў у пагодлівы блакіт. Падарожнікі с захапленнем глядзелі, як павольна ўздымаецца ён над зямлёй і ляціць усё вышэй і вышэй. І хлопчыкі зразумелі, што на зямлю ён больш не вернецца. Будуць шумець дрэвы, і кожны год будуць губляць яны лісце. А шар застанецца ў казачным небе сярод сапсаваных цацак добрага казачніка.

*Паводле В. Жукроўскага*



**115.** Складзіце сказы з наступных слоў і запішыце іх. Вызначце час дзеясловаў.

| | | |
|---|---|---|
| пайшоў | дзіўныя | снег |
| ляцяць | вясёлая | дні |
| настануць | віншавальная | паштоўка |
| будзе гучаць | халодныя | музыка |
| прыйшла | моцны | птушкі |

## Змяненне дзеясловаў цяперашняга і будучага часу

**116.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту займеннікі разам з дзеясловамі, якія з імі звязаны.

### МЫ БАЧЫМ СОНЦА

Усе мы бачым сонца.
Бачу я.
Бачыш ты.
Бачыць ён.
Бачаць яны.

А па нашай ціхай вуліцы, няспешна намацваючы кійком дарогу, крочыць высокі сівы чалавек. Крочыць былы салдат. Сонца свеціць яму ў твар, але ён не бачыць сонца.

Затое бачым яго мы.
Бачу я.
Бачыш ты.
Бачыць ён.
Бачаць яны.
Паклонімся ж салдату! *М. Гіль*

Дзеясловы ў цяперашнім і будучым часе могуць абазначаць дзеянні розных асоб. Якая асоба выконвае дзеянне, паказваюць займеннік і канчатак дзеяслова: ***я*** *чыта[ю]*, ***ты*** *чыта[еш]*, ***ён*** *чыта[е]*, ***мы*** *чыта[ем]*, ***вы*** *чыта[еце]*, ***яны*** *чыта[юць]*.

**117.** Прачытайце пытанні. Адкажыце на іх. Свае адказы запішыце ў сшытак.

1. Ці добра ты ведаеш матэматыку?
2. Куды вы з сябрам несяце кнігі?
3. Хто сядзіць на палянцы, пад бярэзінкай?
4. Дзе хаваюцца ад дажджу дзеці?

- Якія дзеясловы «дапамаглі» вам адказаць на пытанні?

**118.** Разгледзьце табліцу.

**Цяперашні час**

| Асоба | Адзіночны лік | | Множны лік | |
|---|---|---|---|---|
| 1-я | я | дзял[ю], вяз[у] | мы | дзел[ім], вяз[ём] |
| 2-я | ты | дзел[іш], вяз[еш] | вы | дзел[іце], вез[яце] |
| 3-я | ён | дзел[іць], вяз[е] | яны | дзел[яць], вяз[уць] |

## Будучы час

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| 1-я | я падзял[ю], павяз[у] | мы падзел[ім], павяз[ём] |
| 2-я | ты падзел[іш], павяз[еш] | вы падзел[іце], павез[яце] |
| 3-я | ён падзел[іць], павяз[е] | яны падзел[яць], павяз[уць] |

- Як змяняюцца дзеясловы ў цяперашнім і будучым часе?
- Якія канчаткі маюць дзеясловы 1, 2 і 3-й асобы ў адзіночным і множным ліку?

**Дзеясловы ў цяперашнім і будучым часе змяняюцца па асобах і ліках.**

**Змяненне дзеясловаў па асобах і ліках называецца спражэннем.**

**119.** Карыстаючыся табліцай з практыкавання 118, змяніце па асобах у адзіночным і множным ліку (праспрагайце) дзеясловы *несці* і *стаяць* у цяперашнім часе. Абазначце канчаткі.

**120.** Прачытайце, устаўце ў сказы патрэбныя дзеясловы. Растлумачце свой выбар.

1. Над садам вясна *(рассыпае, рассыпаеш, рассыпаюць)* пялёсткі. 2. Калі вы *(зробіце, зробім,*

*зраблю)* новую шпакоўню? 3. Высока-высока ў сінім бязвоблачным небе *(ляціць, ляцяць, ляцім)* жураўлі. 4. «Міхась, ты *(пойдзем, пойдзеш, пойдзе)* са мной у грыбы?» — запытала бабуля. 5. Кожную вясну мы з Санькам *(чакаеце, чакаюць, чакаем)*, калі пачнецца ледаход. 6. Я *(устае, устаю, устаеш)* на зары, каб паслухаць прыроду жывую.

● Спішыце спачатку сказы з дзеясловамі 1, 2 і 3-й асобы ў адзіночным ліку, потым — сказы з дзеясловамі 1, 2 і 3-й асобы ў множным ліку.

**121.** Пастаўце пытанні да дзеясловаў *несці* і *прынесці*. Змяніце іх па асобах у адзіночным і множным ліку ў будучым часе. Ці аднолькава яны будуць змяняцца?




Дзеясловы, якія ў неазначальнай форме адказваюць на пытанне **што рабіць?**, у будучым часе змяняюцца так:

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
| --- | --- | --- |
| 1-я | я буду дзяліць | мы будзем дзяліць |
| 2-я | ты будзеш дзяліць | вы будзеце дзяліць |
| 3-я | ён будзе дзяліць | яны будуць дзяліць |

**122.** Прачытайце.

Дзед сядзіць на табурэціку і б’е малатком па нечым бляшаным.

— Дзед, што ты робіш? — пытае Насцечка.

— Касу кляпаю. Касою я накашу карове сена. Карова будзе есці яго, а потым дасць нам малака.

— А ты, бабуля, што робіш? — падышла бліжэй да бабы Насцечка.

— Я сяку бульбу, — лагодна адказала бабуля. — Усыплю сюды мукі, развяду цёплай вадою ды свіней буду карміць. Вырастуць свінні — і мяса, і сала, і каўбасы ў нас будуць.

*Б. Сачанка*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы спачатку цяперашняга часу, потым — будучага. Вызначце асобу і лік кожнага з іх.

● Падумайце, чаму ў тэксце аўтар ужывае шмат дзеясловаў 1-й і 2-й асобы.



*Бляша́ны* — зроблены з тонкага ліставога жалеза — бляхі (рус. *жестяной*).

*Лаго́дна* — дабрадушна, ласкава.



**123.** Прачытайце. Вызначце, якія дзеясловы «згубіліся» пры змяненні па асобах і ліках.

**Паведамлю**, паведаміць, паведамім, паведаміце.
**Атрымаеш**, атрымае, атрымаем, атрымаюць.

● Спішыце, устаўце «згубленыя» дзеясловы.

♦ З выдзеленымі дзеясловамі складзіце сказы (вусна).

## I і II спражэнне дзеясловаў

**124.** Разгледзьце табліцу. Звярніце ўвагу на канчаткі дзеясловаў I і II спражэння.

| Асоба | I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|---|
| **1-я**<br>адз. л.<br>мн. л. | <br>пішу, малюю<br>пішам, малюем | <br>маўчу, раблю<br>маўчым, робім |
| **2-я**<br>адз. л.<br>мн. л. | <br>пішаш, малюеш<br>пішаце, малюеце | <br>маўчыш, робіш<br>маўчыце, робіце |
| **3-я**<br>адз. л.<br>мн. л. | <br>піша, малюе<br>пішуць, малююць | <br>маўчыць, робіць<br>маўчаць, робяць |

- Назавіце канчаткі дзеясловаў I і II спражэння.

Дзеясловы бываюць I і II спражэння. Адрозніваюцца дзеясловы I і II спражэння адзін ад аднаго канчаткамі.

**125.** Карыстаючыся табліцай з практыкавання 124, змяніце па асобах у адзіночным і множным ліку (праспрагайце) дзеясловы: I спр. — *адказаць, слухаць*; II спр. — *ляжаць, карміць*. Абазначце канчаткі дзеясловаў.

У з о р: *я адкажу, слухаю; ляжу, кармлю*.

Дзеясловы I спражэння маюць канчаткі:

| Лік | 1-я асоба | 2-я асоба | 3-я асоба |
| --- | --- | --- | --- |
| адз. л. | ***-у, -ю*** | ***-еш, -эш, -аш*** | ***-е, -э, -а*** |
| мн. л. | ***-ем, -ём, -ом, -ам*** | ***-еце, -аце, -яце*** | ***-уць, -юць*** |

Дзеясловы II спражэння маюць канчаткі:

| Лік | 1-я асоба | 2-я асоба | 3-я асоба |
| --- | --- | --- | --- |
| адз. л. | ***-у, -ю*** | ***-іш, -ыш*** | ***-іць, -ыць*** |
| мн. л. | ***-ім, -ым*** | ***-іце, -ыце*** | ***-аць, -яць*** |

**126.** Прачытайце. Адгадайце загадкі.



1. На градзе агонь ірдзее, не пячэцца і не грэе. І з такіх агнёў-праменняў вараць смачнае варэнне.
2. Не сякера, а шуміць, не пілот, а ляціць, не змяя, а джаліць.

● Спішыце адну з загадак разам з адгадкай. Абазначце асобу, лік і спражэнне дзеясловаў.

**127.** Прачытайце. Якi гэта тэкст — апавяданне ці апісанне?

Апенькі не растуць па адной. Яны ідуць у наступ незлічоным войскам. Ад іх капялюшыкаў аж цесна ў лесе. Яны добра гаспадараць на ко-

лішніх прасеках, дзе стаяць пні ад спілаваных дрэў. На пнях бойкія апенькі адчуваюць сябе нават лепш, чым на зямлі. А самыя адважныя нічога не баяцца, упарта караскаюцца на камлі бяроз, сосен ці дубоў, смокчуць сок жывога дрэва, точаць яго сарцавіну на парахню.

*У. Ягоўдзік*

● Знайдзіце ў тэксце і выпішыце дзеясловы. Абазначце ў іх канчаткі і вызначце спражэнне. Запішыце па ўзоры.

Узор: *вяж*[*уць*] *(I спр.)*.

**128.** Прачытайце. Замяніце дзеясловы ў неазначальнай форме дзеясловамі цяперашняга ці будучага часу. Запішыце сказы.

1. І *(чараваць)*, і *(варажыць)* шаўкавістая трава. 2. Сонца *(вісець)* ужо над самым лесам. 3. Мы вечарам *(сустрэцца)* у тэатры. 4. Калі ты не *(ведаць)* правіла, ад памылак ты не *(пазбавіцца)*. 5. Вы *(перачакаць)* дождж у хаце ці *(пайсці)* далей?

● Вусна вызначце час, асобу, спражэнне дзеясловаў.



**129.** Вызначце, да якога спражэння адносяцца дзеясловы *пачуць, спыніць, знайсці, гаснуць, насіць, злавіць, вырашыць, адпачываць*, калі ў 3-й асобе множнага ліку яны змяняюцца так: *пачуюць, спыняць, знойдуць, гаснуць, носяць, зловяць, вырашаць, адпачываюць.*

Узор: *вышыць* — *вышы|юць|* (*I спр.*), *любіць* — *люб|яць|* (*II спр.*).

● Запішыце дзеясловы па ўзоры.

## 1-я асоба дзеясловаў

**130.** Запішыце дзеясловы *жыць, казаць, ляжаць, стаяць, бачыць* у 1-й асобе адзіночнага і множнага ліку. Абазначце канчаткі.

Узор: *бяр|у|* — *бяр|ом|*.

● Якія канчаткі маюць дзеясловы I і II спражэння ў 1-й асобе адзіночнага ліку?




Я нагадваю вам, што ў 1-й асобе адзіночнага ліку дзеясловы I і II спражэння маюць аднолькавыя канчаткі: ***-у, -ю***.

У 1-й асобе множнага ліку дзеясловы I і II спражэння маюць розныя канчаткі: ***-ем, -ём, -ом, -ам*** (I спр.); ***-ім, -ым*** (II спр.).

**131.** Прачытайце. Знайдзіце дзеясловы ў 1-й асобе адзіночнага і множнага ліку. Выпішыце іх, абазначце канчаткі, у дужках укажыце спражэнне.

1. Я чую бег імклівых рэк, і говары травы, і смех рамонкаў. (*П. Броўка*) 2. Умывацца я іду і спяваю на хаду. (*І. Муравейка*) 3. Ціхі поў-

дзень. Ля ракі мы сядзім — два рыбакі. Вудзім рыбу ад відна, хоць бы клюнула адна. *(В. Вярба)* 4. Хвосцік выпрастаў трытон: «Важу я не менш трох тон!» — «Ох, хвалько, — смяецца мама, — мы, трытоны, важым грамы». *(В. Коўтун)* 5. Праходжу ў полі роснай сцежкай між сцен прылеглай збажыны. Вітаю радаснай усмешкай прыгожасць роднай стараны. *(С. Дзяргай)*

**132.** Адкажыце на пытанні. Поўныя адказы запішыце.

1. Якую кнігу ты чытаеш?
2. Куды ты пойдзеш у нядзелю?
3. Што вы з мамай любіце рабіць дома?
4. Чым вы з сябрамі займаецеся на канікулах?

● У сказах, якія вы запісалі, абазначце канчаткі дзеясловаў. Вызначце спражэнне дзеясловаў.

**133.** Прачытайце, захоўваючы патрэбную інтанацыю пытальных, апавядальных і клічных сказаў.

КАГО ЯК ЗАВУЦЬ

— Чаму цябе Ветрыкам завуць? — спыталіся ў жарабяткі.

— Я хутка бегаю, як вецер.

— А цябе Нясушкай за што?

— Я яйкі нясу.

— А цябе Крыкуном? — спыталіся ў пеўня.

— Я моцна крычу і ранкам сваім крыкам людзей буджу.

— А цябе Упартым?

— Не скажу! — адказала асляня і стукнула капытом па зямлі.

*А. Клышка*

● Выпішыце дзеясловы 1-й асобы адзіночнага ліку. Абазначце канчаткі, у дужках укажыце спражэнне.

**134.** Прачытайце. Растлумачце сэнс прыказак.

1. Што жывём, то вучымся.
2. Самі сябе б'ём, калі нячыста косім і жнём.

● Выпішыце дзеясловы 1-й асобы множнага ліку. Падбярыце да іх неазначальныя формы. Укажыце спражэнне.

Узор: *спяваем — спяваць (I спр.).*



**135.** Прачытайце.

Я абед варыць вучуся,  
працаваць я не лянюся.  
I калі гатуе мама,  
памагаю ёй таксама.  
Мыю посуд і прыборы,  
рэжу сыр і памідоры.  
За цыбулю — не бяруся,  
бо расплакацца баюся.

*М. Пазнякоў*

● Знайдзіце ў тэксце дзеясловы ў 1-й асобе адзіночнага ліку. Падбярыце да іх дзеясловы ў 1-й асобе множнага ліку і дзеясловы ў неазначальнай форме. Запішыце іх па ўзоры.

Узор: *вучуся — вучымся — вучыцца (II спр.).*

## 2-я асоба дзеясловаў

**136.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на націскі. Растлумачце, чаму дзеясловы маюць розныя канчаткі.

| | |
|---|---|
| спяваеш — спяваеце | гаворыш — гаворыце |
| вяжаш — вяжаце | сядзіш — седзіце́ |
| нясеш — несяце́ | купіш — купіце |
| пячэш — печаце́ | глядзіш — гледзіце́ |
| бярэш — бераце́ | звоніш — звоніце |




Я нагадаю вам, якія канчаткі маюць дзеясловы ў 2-й асобе.

**I спражэнне** — ***-еш, -эш, -аш*** (адз. л.); ***-еце, -аце, -яце*** (мн. л.).

**II спражэнне** — ***-іш, -ыш*** (адз. л.); ***-іце, -ыце*** (мн. л.).

**137.** Выпішыце спачатку дзеясловы I спражэння, а потым — дзеясловы II спражэння. Абазначце канчаткі дзеясловаў.

Робіш, бярэш, гаворыш, грыміш, слухаеш, трымаеш, арэш, крочыш, кажаш, возіш, малоціш, працуеш.

● Складзіце два сказы з дзеясловам I спражэння і два — з дзеясловам II спражэння.

***грымéць***



У канчатках дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку ў беларускай мове пасля ***ш*** літара ***ь*** (мяккі знак) не пішацца.

**138.** Запішыце загадкі разам з адгадкамі. Абазначце канчаткі дзеясловаў 2-й асобы. У дужках укажыце спражэнне.

1. Глянеш — заплачаш, а ўсе яму рады.
2. Што за рэч: паглядзіш на яе — сябе ўбачыш.
3. Згорнеш — клін, разгорнеш — блін.



**139.** Перакладзіце на беларускую мову дзеясловы.

Пойдёте, ска́жете, е́дете, дру́жите, смо́трите, еди́те, благодари́те.

- Як пры перакладзе змяніўся канчатак дзеясловаў? У якіх дзеясловаў вы замянілі і корань слова?
- У перакладзеных дзеясловах пастаўце націск і падкрэсліце ***дз***.

Запомніце месца націску ў дзеясловах 2-й асобы множнага ліку: *несяцé, берацé, ідзяцé, печацé, везяцé, ведзяцé, седзіцé, гледзіцé.*

**140.** Прачытайце. Ад якой асобы вядзецца апавяданне? Замяніце ў тэксце займеннікі *я, мы* на займеннікі *ты, вы*. Як зменяцца пры гэтым дзеясловы?

Я рана ўстаю. Хуценька саскокваю з ложка і іду да ўмывальніка. Сёння нядзеля. Мы з татам ідзём у цырк. Мы вельмі любім глядзець, як выступаюць акрабаты і жанглёры.

● Тэкст, які вы перарабілі, запішыце. Падкрэсліце ў ім дзеясловы. У дужках абазначце спражэнне дзеясловаў.

**141.** Прачытайце пісьмо. Выпішыце дзеясловы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку. Абазначце ў іх канчаткі. Укажыце спражэнне.

*Добры дзень, Святлана і Наташа!*

*Дзякуй за пісьмы, якія вы мне пішаце.*

*Святлана! Ты расказваеш, што ўжо добра чытаеш і правільна пішаш. Гэта мне вельмі прыемна.*

*Я рада, што ты, Наташа, дапамагаеш маме.*

*Вы робіце карысную справу, калі носіце з магазіна малако і хлеб вашай суседцы — бабулі Ганне.*

*Напішыце, з кім вы сябруеце, як праводзіце вольны час.*

*Мы будзем удзячныя вам, калі вы прыедзеце да нас на свята.*

*Ваша сястра Таня.*

● Звярніце ўвагу на тое, якімі сказамі пачынаецца і заканчваецца пісьмо.

♦ **142.** Раскажыце, пра што б вы напісалі свайму сябру ці сваім родным, блізкім. Напішыце пісьмо. Не забудзьце пра ветлівыя звароты.



**143.** Прачытайце. Складзіце прыказкі з наступных частак сказаў.

| | |
|---|---|
| Сёння зроб..ш — | заўтра як знойдз..ш. |
| Адною рукою | чым багата нагавар..це. |
| Лета прагуля..це — | і вузла не завяж..ш. |
| Лепей крышку зраб..це, | восенню не збер..це. |

● Запішыце прыказкі, устаўляючы ў канчаткі прапушчаныя літары.

● Вызначце спражэнне дзеясловаў.

## 3-я асоба дзеясловаў



**144.** Прачытайце і адгадайце загадкі.

1. Не рыба, а плавае; не конь,
а ходзіць; не піла, а рэжа.



2. У траве, як аганькі,
ружавеюць вугалькі,
іх вадою не зальеш,
рук і ног не апячэш.
Дзень і ноч гараць, палаюць,
смак яны мядовы маюць.

● Выпішыце з загадак дзеясловы ў 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку. Абазначце іх канчаткі. Вызначце спражэнне.




Я нагадаю вам канчаткі дзеясловаў у 3-й асобе.

**I спражэнне** — ***-е, -э, -а*** (адз. л.); ***-уць, -юць*** (мн. л.).

**II спражэнне** — ***-іць, -ыць*** (адз. л.); ***-аць, -яць*** (мн. л.).

**145.** Запішыце дзеясловы ў 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку па ўзоры.

Узор: *раскаж[а] — раскаж[уць] (I спр.).*

Спяваць, браць, паказаць, гаварыць, купіць, папрасіць.

● Абазначце канчаткі і ўкажыце спражэнне.

**146.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту спачатку дзеясловы ў 3-й асобе адзіночнага ліку, потым — у 3-й асобе множнага ліку. Укажыце спражэнне дзеясловаў.

Узор: *аджыва[е] (I спр.).*

Ідзе лесам Лістапад, лісце сыпле, як град. Сякуць дажджы касыя, шумяць вятры злыя. Дрэвы сцелюць да ног Лістапада пажоўклае лісце. Адлятаюць у вырай птушкі, пусцее ўсё вакол.

Лістапад пасылае на зямлю бледны сонечны прамень, глядзіць з-за шэрых хмар лапінкай блакіту.

*Паводле К. Каліны*

**147.** Перакладзіце вусна на беларускую мову дзеясловы.

Поёт, поют, танцует, танцуют, встретит, встретят, сохранит, сохранят.

**148.** Прачытайце. Вызначце час, лік і асобу дзеясловаў. Назавіце дзейнікі, з якімі звязаны дзеясловы-выказнікі.

Ах, як добра ў чэрвені ў полі!

Гамоніць пад ціхімі павевамі ветру жыта. Густы ячмень распускае пушыстыя вусы. Авёс шамаціць галінкамі. Расплюшчвае блакітныя вочы лён. Звініць у паветры радасная песня жаваранка.

*П. Броўка*

● Выпішыце дзеясловы, абазначце іх канчатак, укажыце спражэнне. Побач запішыце гэтыя ж дзеясловы ў 3-й асобе множнага ліку.

Узор: *заміата[е] (I спр.) — заміата[юць]*.

**149.** Прачытайце, пастаўце дзеясловы ў дужках у форме 3-й асобы адзіночнага ці множнага ліку.

У лясных насельнікаў у ліпені свае клопаты. Не часта пачуеш птушынае шчабятанне. *(Маўчаць)* салаўі, не *(кукаваць)* зязюля. Толькі зрэдку *(данасіцца)* флейтавы покліч івалгі, *(прасвістаць)* сініца.

А шпакі і гракі ўжо *(збірацца)* у вялікія чароды, *(рыхтавацца)* да будучых доўгіх пералётаў.

*(Падрастаць)* маладыя лісяняты. Яны ўжо разам з бацькамі *(выходзіць)* на паляванне. А зайчаняты, наадварот, *(вучыцца)* затойвацца ад гэтых драпежнікаў.

*Я. Галубовіч*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы ў неазначальнай форме разам з дзеясловамі ў 3-й асобе адзіночнага ці множнага ліку.

Узор: *завітаць — завітаюць (3-я ас., мн. л., I спр.).*

**150.** Разгледзьце малюнкі.



лячу



лячу

● Якое значэнне мае кожны з гэтых дзеясловаў? Пастаўце іх у 3-й асобе адзіночнага ліку і складзіце з імі сказы. Вызначце спражэнне гэтых дзеясловаў. Ці аднолькавае яно?



**151.** Прачытайце. Дакажыце, што дадзеныя дзеясловы з'яўляюцца словамі-антонімамі.

**Падняць — апусціць, знайсці — згубіць, забыць — успомніць, пабудаваць — разбурыць.**

● Запішыце гэтыя дзеясловы ў 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку па ўзоры.

Узор: *падніме, паднімуць (I спр.) — апусціць, апусцяць (II спр.).*

**152.** Прачытайце і запомніце, як спрагаюцца дзеясловы.

Ісці — іду, ідзеш, **ідзе**, ідзём, ідзяце, ідуць.
Плыць — плыву, плывеш, плыве, плывём, плывяце, **плывуць**.
Пячы — пяку, пячэш, пячэ, пячом, печаце, пякуць.
Ліць — лью, льеш, лье, льём, льяце, льюць.
Віць — ую, уеш, уе, уём, уяце, уюць.

● Складзіце сказы з выдзеленымі дзеясловамі, ужываючы дзеясловы ў прамым і пераносным значэннях (вусна).

**153.** Спішыце. Устаўце ў канчаткі дзеясловаў прапушчаныя літары, абазначце канчаткі. (Карыстайцеся памяткай на с. 67.)

Увосень цішыня ста..ць. Сонейка ўжо не пяч.., як летам. Суму..ць высокія таполі, губля..ць лісты. Жоўты дыван пакрыва.. зямлю. Ідз..ш па ім, а лісты шалясц..ць пад нагамі. Гэта восень шл.. апошняе прывітанне.

**154.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Да якога з выдзеленых дзеясловаў можна паставіць пытанне ш т о  б у д з е м  р а б і ц ь?, а да якога — ш т о  з р о б і м?

Калі з яе мы **будзем браць**,
яна вялікай можа стаць.
А калі многа ёй **дадзім**,
то нават знікне назусім.

*М. Пазнякоў*



● Выпішыце дзеясловы будучага часу з пытаннямі да іх.

**155.** Змяніце па асобах у адзіночным і множным ліку (праспрагайце) дзеясловы *напішу* і *буду пісаць*, *накармлю* і *буду карміць*. (Пры неабходнасці карыстайцеся табліцай на с. 66.)

**156.** Прачытайце. Выпішыце спачатку дзеясловы будучага часу, якія адказваюць на пытанні ш т о з р о б і ц ь? ш т о з р о б я ц ь?, а потым — дзеясловы, якія адказваюць на пытанне ш т о б у д у ц ь р а б і ц ь? Вызначце асобу дзеясловаў.

**Пройдзе час, і ў Космасе будуць працаваць людзі, як і на Зямлі. Яны пабудуюць там міжпланетныя станцыі. З гэтых станцый паляцяць ракеты на іншыя планеты. Людзі свабодна будуць лятаць у касмічнай прасторы. Яны будуць вывучаць яе.**

**157.** Запішыце наступныя дзеясловы па ўзоры. Абазначце ў іх прыстаўкі. Побач запішыце роднасныя дзеясловы без прыставак і ўтварыце ад іх 2-ю і 3-ю асобу адзіночнага ліку будучага часу.

**У з о р:** ***пераплыць — плыць — будзеш плыць, будзе плыць.***

**Намаляваць — … — …, … .**
**Прыклеіць — … — …, … .**
**Зрабіць — … — …, … .**
**Вывучыць — … — …, … .**

- На якія пытанні адказваюць утвораныя дзеясловы?

♦ **158.** Прачытайце. Вызначце тэму і галоўную думку тэксту. Вусна падзяліце тэкст на 3 часткі: уступная, галоўная, заключная.

### КАЗАЧНЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ

Раніцою ўстала бабуля, сабралася ісці па дровы. А яны ўжо ляжаць каля печы. Хацела яна па ваду пайсці, аж бачыць: стаіць на лаве паўнюткае вядро.

Дзівіцца бабуля. А Зоська з Толікам за ёй назіраюць і хітра падміргваюць адзін аднаму. Паглядзела на іх бабуля ды і кажа:

— Пэўна, у нас у хаце з'явіліся маленькія казачныя чалавечкі, якія мне дапамагаюць.

— Чым жа мы аддзякуем тым чалавечкам за работу? — запыталася мама.

— Пачакайце, — сказаў тата. — Ёсць у мяне два апельсіны. Падару іх маленькім чалавечкам. Можа, яны і надалей будуць дапамагаць нам. Пакладзём гэтыя апельсіны на талерку і пакінем на стале. Прыбягуць маленькія чалавечкі і здагадаюцца, што гэта ім за работу.

Смачныя былі апельсіны. З'елі іх Зося з Толікам, а лушпі́ны на талерцы пакінулі.

— Заўтра зноў у казачных чалавечкаў будзем гуляць! — кладучыся спаць, сказаў Толік.

● Перакажыце тэкст. Ужывайце дзеясловы ў будучым часе.

*памо́чнік*



**159.** Прачытайце. Пастаўце пытанні да дзеясловаў. Запішыце дзеясловы ў 2-й і 3-й асобах множнага ліку будучага часу.

Узор: *будаваць* (што рабіць?) — *будзеш будаваць, будуць будаваць; запоўніць* (што зрабіць?) — *запоўніце, запоўняць.*

Зімаваць, вярцець, шыць, заўважыць, берагчы, папрасіць, сячы.

● Якія дзеясловы не могуць абазначаць дзеянні ў цяперашнім часе? Чаму?

## Змяненне дзеясловаў прошлага часу

**160.** Прачытайце.

ВЫПАЎ СНЕГ

Ішоў ён ціха, асцярожна,
ніхто не чуў яго хады.
Нібы мастак, ён упрыгожыў
бялюткай квеценню сады.

*П. Прануза*

● Выпішыце дзеясловы з тэксту. Пастаўце да іх пытанні. Калі адбываюцца дзеянні ў вершы?



*Квéцень* — кветкі, цвіценне.




Дзеясловы прошлага часу называюць дзеянні, якія адбываліся ў мінулым, і адказваюць на пытанні **ш т о р а б і ў?** (**ш т о з р а б і ў?**), **ш т о р а б і л а?** (**ш т о з р а б і л а?**), **ш т о р а б і л і?** (**ш т о з р а б і л і?**): *ішоў (прыйшоў), ішла (прыйшла), ішлі (прыйшлі)*.

**161.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы прошлага часу. Выпішыце іх разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца. Пастаўце пытанні да дзеясловаў. Абазначце іх канчаткі.

У з о р: *прыйшоў* □ *май.*

Прыйшоў май. Сонейка кожны дзень песціла і грэла зямлю. І ліпы пры гасцінцы зацвілі, буйна заквітнелі. У раскідзістых залаціста-жоўтых кронах несціхана гучала пчаліная музыка. Прырода нібы прыціхла, як анямела ўсё роўна.

*Паводле Я. Галубовіча*

● Чаму дзеясловы ў прошлым часе адказваюць на розныя пытанні і маюць розныя канчаткі?




Дзеясловы прошлага часу змяняюцца **па ліках** (*ландыш расцвіў — ландышы расцвілі*), а ў адзіночным ліку — **па родах** (*салавей лятаў — ластаўка лятала — пер'е лятала*).

**Па асобах** дзеясловы прошлага часу не змяняюцца.

**162.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту і запішыце яе.

На першы погляд здаецца, што дзеясловы прошлага часу вельмі лёгка змяняюцца і па асобах: *я пісала, ты пісала, яна пісала*. Аднак гэта не так. Мы лёгка мяняем займеннікі 1, 2 і 3-й асобы пры дзеяслове. А сам дзеяслоў пры кожным з гэтых займеннікаў мае адзін і той жа канчатак і ў прошлым часе па асобах не змяняецца.

**163.** Прачытайце. Вусна пастаўце пытанні да дзеясловаў. Запішыце дзеясловы, як паказвае ўзор.

У з о р: *не спяваў — не спявала, не спявалі*.

САЛАВЕЙ

Не спяваў ён ясным зорам
за далёкім сінім морам.
Не спяваў на скалах голых,
сумаваў па родных долах.
Салавей, пясняр крылаты,
прыляцеў вясной дахаты.
Пад лістком расінку соку
выпіў чыстага, як вока.
Пакланіўся зорцы ў пояс
і паспрабаваў свой голас.

● Звярніце ўвагу на дзеясловы, якія адказваюць на пытанне ш т о р а б і ў? ш т о з р а б і ў? Дзеянне якой асобы яны абазначаюць?

**164.** Разгледзьце табліцу. Запомніце канчаткі дзеясловаў прошлага часу ў адзіночным і множным ліку.

| | **Адзіночны лік** |
|---|---|
| Мужчынскі род | Ён ішоў[ ], ехаў[ ], прыехаў[ ] |
| Жаночы род | Яна ішл[а], е́хал[а], прыехал[а] |
| Ніякі род | Яно ішл[о́], е́хал[а], прые́хал[а] |
| | **Множны лік** |
| | Яны ішл[і], ехал[і], прыехал[і] |

**165.** Спішыце. Падкрэсліце дзейнікі і выказнікі ў сказах. Вызначце лік і род дзеясловаў. Абазначце іх канчаткі.

Зайшло сонца. Хмары зацягнулі небасхіл. Наляцеў вецер і разагнаў хмары. У вышыні заззяла першая зорка. На зямлю лягла ноч.

*З. Бяспалы*

● Якія словы «дапамагаюць» вам вызначаць род і лік дзеясловаў у прошлым часе?




Род і лік дзеяслова прошлага часу вызначаецца па родзе і ліку назоўніка ці займенніка, з якім звязаны гэты дзеяслоў.

**166.** Спішыце, устаўце ў сказы патрэбныя дзеясловы. Растлумачце свой выбар.

Сонца *(узышоў, узышла, узышло)* рана. Яно *(асвяціў, асвяціла, асвяцілі)* і поле, і лес, і адзінае дрэва ля хаты. Гэта быў магутны дуб. Ён *(рос, расла, расло)* раскідзіста і свабодна. Яго вяршыня горда *(глядзеў, глядзела, глядзелі)* удаль.



**167.** Прачытайце. Змяніце сказы па ўзоры. Запішыце іх. Абазначце канчаткі дзеясловаў. У дужках укажыце іх лік і род.

Узор. *Жаўранкі заспявал[і] (мн. л.). — Жаўранак заспяваў[ ] (адз. л., м. р).*

Гракі прыляцелі. Пралескі расцвілі. Азёры зараслі. Дрэвы зазеляненелі. Вожыкі ўцякалі. Шышкі ўпалі.

- Растлумачце, як вы вызначалі род дзеясловаў.

**168.** Прачытайце верш. Выпішыце дзеясловы прошлага часу. Падбярыце да іх дзеясловы жаночага роду адзіночнага ліку і дзеясловы множнага ліку. Запішыце па ўзоры.

Узор: *ляжаў[ ] — ляжал[а] — ляжал[і]*.

Лось бязрогі выбег з гаю,
дзе звініць птушыны грай.
Пастаяў на полі з краю

і назад пабег у гай.
След панюхаў ля дарогі,
затрубіў і ў смутку сціх.
Лось згубіў у снежні рогі
і цяпер шукае іх

*В. Гардзей*

● Якія з выпісаных вамі дзеясловаў з'яўляюцца антонімамі?

**169.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы прошлага часу.

БЯРОЗКА

На мосціку, у шчыліне паміж дошкамі, расло маленькае дрэўца. Гэта была бярозка. Яна паднімала свае галінкі да сонейка і шапацела зялёным лісцейкам. Быццам прасіла ў людзей прабачэння, што вырасла ў такім нязручным месцы.

І людзі шкадавалі яе. Шафёры яе аб'язджалі. Але кожны раз я падыходзіў да мосціка з трывогай. І я вырашыў перасадзіць бярозку ў іншае месца. Узяў рыдлёўку, выкапаў дрэўца і пасадзіў яго каля дарогі.

*М. Янчанка*

● Выпішыце з тэксту дзеясловы прошлага часу. Абазначце іх род і лік.

♦ Складзіце план апавядання. Перакажыце апавяданне па плане.

| *до́шкі* | *аб'язджа́ць* |
|---|---|

**170.** Прачытайце тэкст. Вызначце час, лік і асобу дзеясловаў. Запішыце, замяняючы дзеясловы цяперашняга і будучага часу дзеясловамі прошлага часу.

У лесе гаспадарыць залатая восень. А ў вясковых садах і агародчыках яшчэ цвітуць вяргіні, астры, флёксы.

Але міне дзень-другі, і нечакана ўначы ляжа першы зазімак. Выйдзеш ранкам з дому на вуліцу і міжволі здзівішся. Усё навокал стане бялюткім ад шэрані.

*Р. Ігнаценка*

- Якія дзеясловы прошлага часу вы ўжылі? Вызначце іх лік і род (вусна).
- Прыдумайце загаловак.

***вýліца***

**171.** Прачытайце, устаўляючы ў сказы дзеясловы. Сказы запішыце.

1. Гусь белая, як снег, ..., як мех.
2. Сабака хвастом, як мятлою, ... .
3. Кацяня ... спіну дугою.
4. Яблык ... свежым сокам.

**Словы для даведкі:** *надулася, махнуў, выгнула, наліўся.*

- Сказы, якія вы запісалі, перакладзіце на рускую мову. Параўнайце беларускія і рускія дзеясловы прошлага часу. Чаму іх канчаткі не супадаюць?

**172.** Прачытайце. Вусна перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Иногда из-за туч выглядывало солнце. Холодный туман застилал реку. За лугами куковала кукушка. У берега зашуршали камыши. Через несколько минут из них выплыла лодка.



**173.** Запішыце загадкі разам з адгадкамі. Падкрэсліце ў іх дзеясловы прошлага часу. Пастаўце да іх пытанні (вусна). Вызначце лік і род дзеясловаў (вусна).



1. Параход сам не хадзіў,
   я яго рукой вадзіў.
   Параход ішоў па хвалях.
   як прайшоў — яны прапалі.

2. Аб ім мы марылі даўно.
   У дом прыехала кіно.
   У разетку падключаецца —
   мультфільмы пачынаюцца.

*У. Мацвеенка*



## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што абазначае дзеяслоў? Якім членам сказа ён з'яўляецца?
2. Якая форма дзеяслова называецца неазначальнай?
3. Якія формы часу мае дзеяслоў? Назавіце іх.

4. Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу?

5. Як адрозніць дзеясловы I спражэння ад дзеясловаў II спражэння? Прывядзіце прыклады.

6. Як змяняюцца дзеясловы прошлага часу?

7. Як вызначаецца род дзеясловаў у прошлым часе?

## ПРЫСЛОЎЕ




Сёння мы пазнаёмімся з новай часцінай мовы. Яе адметнасць у тым, што яна ніколі не змяняецца. У гэтай часціны мовы нават канчатка няма. Гэта — **прыслоўе!**

**174.** Прачытайце тэкст. Да выдзеленых слоў пастаўце пытанні куды? адкуль? калі? як?

**Раніцай** заварушылася Мішкава маці, **грузна** ўзнялася на пярэднія лапы. **Потым** стала на ўсе чатыры, **шумна** атрэслася ад моху, ад сухога лісця і падалася **наверх** з цёмнай бярлогі. **Здалёк** прыляталі глухія гукі званочкаў: на балоце пасвіліся коні. **Ціха** пранесліся над палянай качкі. Мядзведзіца вярнулася **назад,** узяла Мішку зубамі за карак і паставіла на ногі. Мішка ведаў, што гэта значыць: «Уставай, лодар, лежабока, час ужо па снеданне ісці!»

*Паводле М. Лынькова*



*Ка́рак* — задняя частка шыі.

**175.** Прачытайце. Што абазначаюць выдзеленыя словы ў кожным словазлучэнні: спосаб дзеяння, месца ці час дзеяння?

Цвісці **ўвосень**, адчыніць **насцеж**, выконваць **старанна**, чакаць **уверсе**, стаяць **унізе**, любіць **моцна**, убачыць **злева**, жыве **далёка**, паехаць **улетку**, уставаць **позна**.

● Запішыце словазлучэнні групамі, каб выдзеленыя словы называлі: 1) спосаб дзеяння; 2) месца дзеяння; 3) час дзеяння.

***уве́рсе***

Узор. (Як?) *Адчыніць насцеж, ..., ... .*
(Дзе?) *Чакаць уверсе, ..., ... .*
(Калі?) *Цвісці ўвосень, ..., ... .*

***уні́зе***

● Знайдзіце сярод выдзеленых слоў антонімы.

**Прыслоўе** — часціна мовы, якая адказвае на пытанні як? дзе? куды? адкуль? калі?: *Над зямлёю* (як?) ***паволі*** *спускаецца ноч. У жніўні камбайнеры працуюць і* (калі?) ***днём,*** *і* (калі?) ***ноччу.***

**176.** Прачытайце. Знайдзіце прыслоўі і вусна пастаўце да іх пытанні. Ад якой часціны мовы ставяцца гэтыя пытанні?

У блакітным казачным горадзе жылі шчаслівыя людзі. Удзень яны старанна працавалі і разам спявалі песні. Праца прыносіла ім вялікую

радасць. А ўвечары адусюль з іх дамоў лілася цудоўная музыка.

*Паводле Г. Васілеўскай*

● Выпішыце са сказаў словазлучэнні «дзеяслоў + прыслоўе» па ўзоры.

Узор: *працавалі* (калі?) *удзень*.

**177.** Запішыце прыслоўі групамі ў залежнасці ад пытанняў, на якія яны адказваюць.

Унізе, назаўтра, дома, дамоў, на́суха, угары́, даўно, навокал, уголас, сюды, услых, заўчора, назад, калісьці, раптам, наперад.

Узор. (Дзе?) *Дома*, ..., ... .
(Куды?) *Сюды*, ..., ... .
(Калі?) *Ранкам*, ..., ... .
(Як?) *Уголас*, ..., ... .

*услы́х*



**178.** Прачытайце. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары.

Аднойчы пра шчаслівы горад даведа..ся злы чара..нік. Сеў ён ноч..у на свой дыван-самалёт і пал..цеў. Хутка ўнізе паказаліся блакітныя дахі.

Ранкам на вуліц.. з’явіўся першы жыхар. Ён ішоў і ўсміхаўся сонцу, якое шчодра гр..ла з..млю. І чараўнік выр..шыў абавязкова ўкрасці ўсмешку.

*Паводле Г. Васілеўскай*

● Падкрэсліце ў тэксце прыслоўі.

**179.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце прыслоўі і пастаўце да іх пытанні.

**На нашай зямлі прырода мяняе сваё аблічча кожныя тры месяцы.**

**Як цудоўна, калі на голых галінках з'яўляюцца лісточкі! Учора іх не было, а сёння, глядзіш, ужо распусціліся.**

**Зімой сняжынкі падаюць з неба, пакрываюць сабой усю зямлю. А потым знікаюць... Хіба гэта не цуд?!**

*Паводле А. Бадака*

● Назавіце клічныя сказы. Якія яны па мэце выказвання: апавядальныя, пытальныя або пабуджальныя? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

**180.** Прачытайце, устаўце замест пытанняў патрэбныя па сэнсе прыслоўі.

(Калі?) падм**а**розіла: у вокны (як?) гл**я**дзела чырвонае-чырвонае сонейка. Дрэвы (як?) апушыліся інеем. Зірну**ў** Тараска ў акно і аж зн**я**меў. Казачнае царства, дый годзе. Як тут уседзіш (дзе?)!

*Паводле У. Юрэвіча*

**Словы для даведкі:** *раніцай, сумна, прыгожа, дома.*

● Спішыце, падкрэсліце ўстаўленыя прыслоўі.
● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



*Дый гóдзе* — рус. *и всё тут.*

**181.** Падбярыце да рускіх прыслоўяў беларускія. Запішыце іх парамі.

У з о р: *по-ру́сски — па-руску, по-белорусски — па-беларуску.*

По-русски, по-белорусски, вверх, вниз, вверху, внизу, впереди, сразу, всегда, вчера, позавчера.

**Словы для даведкі:** *уверх, уніз, уверсе, унізе, наперадзе, адразу, заўсёды, учора, пазаўчора.*

● З двума любымі прыслоўямі складзіце сказы і запішыце.

**182.** Прачытайце словазлучэнні. Замяніце ў іх назоўнікі на прыслоўі па ўзоры.

У з о р: *згаджацца з ахвотай — згаджацца ахвотна.*

Згаджацца з ахвотай — згаджацца ..., ставіцца са спагадай — ставіцца ..., зразумець з лёгкасцю — зразумець ..., азірацца з трывогай — азірацца ..., сустракаць з радасцю — сустракаць ..., паварочваць з асцярожнасцю — паварочваць ... .

● Запішыце пары словазлучэнняў. Падкрэсліце ў іх прыслоўі.

**ахво́тна**



*Спага́да* — рус. *сочувствие.*
*Спага́дліва* — рус. *чутко, отзывчиво.*
*Ста́віцца* — рус. *относиться.*



**183.** Карыстаючыся малюнкам, дапоўніце сказы. Спішыце, падкрэсліце ўстаўленыя прыслоўі.

1. Мыш трапіла ў пастку. Яна сядзіць (д з е?). 2. Кот падышоў да пасткі. Ён чакае (д з е?). 3. На падлозе стаіць пастка. Кот сядзіць (д з е?). 4. Мы бачым мыш (д з е?), а сыр (д з е?). 5. Мяч ляжыць (д з е?), а пастка стаіць (д з е?).

**Словы для даведкі:** *унутры, звонку, побач, злева, справа, спераду, ззаду.*



**184.** Прачытайце. Назавіце ў тэксце прыслоўі і выпішыце іх. На якія пытанні яны адказваюць?

БЕЛАРУСКАЕ МОРА

Людзі называюць Нарач «беларускім морам». Гэта самае вялікае і глыбокае наша возера. Над Нараччу вельмі часта дзьмуць вятры. Хвалі раўнамерна набягаюць на бераг і пакідаюць на пяску пушыстыя шматкі белай пены. Імкліва прано-

сяцца маторныя лодкі. Раскінуўшы крылы, павольна плануюць у паветры чайкі.

*Паводле В. Вольскага*

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**185.** Утварыце ад прыметнікаў прыслоўі.

Узор: *вясёлы смех — весела смяяцца.*

Моцны ўдар — ... ударыць, смелы позірк — ... пазіраць, цяжкі ўздых — ... уздыхнуць, ціхі шэпт — ... шаптаць, прыгожы малюнак — ... маляваць, высокі ўзлёт — ... узляцець, доўгае вандраванне — ... вандраваць, маўклівая згода — ... згаджацца.

● Запішыце словазлучэнні па ўзоры. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

**186.** Прачытайце. З дапамогай прыметнікаў і прыслоўяў зрабіце мову тэксту больш выразнай.

Жыла ў садзе ружа. І быў у яе сябар — матылёк. Ружа думала пра матылька. І матылёк не забываўся на ружу.

Ён прыносіў сяброўцы расінку ці павуцінку. А яна квітнела ад радасці і дарыла матыльку кроплю нектару.

*Паводле Т. Рык*

● Запішыце тэкст, які ў вас атрымаўся.

● Вызначце склон назоўнікаў *ружа* і *матылёк* (вусна).

**187.** Разгледзьце малюнкі. Якія падзеі адлюстраваны на іх? Раскажыце аб гэтым, выкарыстоўваючы прыслоўі.



**Словы для даведкі:** *аднойчы, зацікаўлена, унутры, блізка, асцярожна, унутр, нечакана, імгненна, троль, знутры, спалохана, наўцёкі.*

● Складзіце па малюнках невялікі тэкст (4—5 сказаў) і запішыце яго.

● Падкрэсліце прыслоўі.

 **188.** Прачытайце. Вусна вызначце ў сказах усе вядомыя вам часціны мовы (назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, займеннік, прыслоўе, прыназоўнік).

Некалі зв..ры не мелі хвастоў. Др..нна яны жылі! Зімою ц..рпелі, а ўлетку не ўратавацца ад мух і мошак. Насмерць заядалі зв..роў авадні і сляпні.

Дачу..ся пра зв..рыную бяду цар і выдаў мудры загад, каб зв..ры ішлі да яго хвасты сабе падбіраць.

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прыслоўі.

## ШТО МЫ ВЕДАЕМ?

1. Што абазначае прыслоўе?
2. На якія пытанні адказваюць прыслоўі?
3. Прывядзіце прыклады прыслоўяў, якія абазначаюць: а) месца дзеяння; б) час дзеяння; в) спосаб дзеяння.

# ПАЎТАРЭННЕ

## ТЭКСТ. СКАЗ

**189.** Прачытайце сказы. Якую тэму раскрываюць гэтыя сказы? Ці можна з іх скласці тэкст?

1. Жучкі, матылькі, мухі пазалазілі ў чашачкі кветак.
2. Мышка прытаілася пад чырвоным мухаморам.
3. Буйныя кроплі гучна заляскалі па траве і лісцях дрэў.
4. А жабы пасядзелі на беразе сажалкі, падумалі ды скокнулі ў ваду.
5. У лесе нечакана сыпануў дождж.
6. Так і прасядзелі яны ў сажалцы, пакуль дождж не скончыўся.
7. І ўсе пачалі хавацца ад дажджу.

*Паводле В. Хомчанкі*

● Размясціце сказы так, каб атрымаўся тэкст. Прыдумайце да яго загаловак.

● Запішыце тэкст. Знайдзіце ў сказах аднародныя члены. Падкрэсліце іх.

**190.** Прачытайце. Захоўвайце інтанацыю апавядальных, пытальных і клічных сказаў. Якімі сказамі Якуб Колас найбольш ярка перадае сваё захапленне Беларуссю і любоў да яе?

РОДНЫЯ ШЛЯХІ

Ёсць штосьці незвычайна прыгожае ў прывольных шляхах Беларусі. Шырока і размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі. Колькі хараства і прывабнасці ў іх далях! Колькі новых малюнкаў абяцаюць яны вачам і сэрцу падарожнага!

Якая ж сіла заложана ў гэтых пасторах родных і любімых шляхоў? Эх, шляхі, родныя шляхі! Хто перакажа нам вашы казкі, разгадае думкі?

*Паводле Я. Коласа*

● Знайдзіце аднародныя члены сказа. Якімі часцінамі мовы яны выражаны?



*Падаро́жны* — той, хто знаходзіцца ў дарозе, падарожнік.

**191.** Прачытайце ўрывак з верша «Страх». Якія літары трэба ўставіць замест кропак? Якія знакі прыпынку прапушчаны тут?

Цёмнай ноч..у ў л..сах
сам з сабой гуляе страх.
А як прый..е ранак ціха,
стане страху страшна крыху.
Ён баіцца **плачу крыку**
**енку піску смеху рыку!**

I таму вось на зары
страх знікае ў гуш..ары.
*А. Бадак*

● Спішыце сказы з аднароднымі членамі. Падкрэсліце аднародныя члены сказа. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

● Абазначце канчаткі і склон выдзеленых назоўнікаў.

**192.** Прачытайце, як птушкі перагукваюцца паміж сабой, з такой інтанацыяй, каб было падобна на птушыныя галасы.

ШТО ПТУШКІ ГАВОРАЦЬ?

Снег прыкметна пацямнеў, аблёг. У лясах, пералесках з'явіліся першыя праталіны. Убачыўшы чорную зямлю пад дрэвамі, кустамі, ажыўляюцца дразды. Цёплымі падвячоркамі яны весела «размаўляюць», перагукваюцца паміж сабой.

«Савось! Савось! — кажа адзін з іх. — Ідзі сюды!»

А той яму з суседняй елкі:

«Порткі пранасіў! Няма ў чым ісці!»

Альбо:

«Скінь каптан! Скінь каптан!»

А другі:

«Снег па калена! Холадна яшчэ!»

*Паводле Р. Ігнаценкі*

● Спішыце першыя чатыры сказы, устаўляючы паміж аднароднымі членамі злучнікі. Якія змены ў пастаноўцы знакаў прыпынку адбудуцца пры гэтым?

**193.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак.

Стаялі **халодныя асеннія дні.** Дрэвы ўжо страцілі свой убор, толькі вецер кружыў **апошні адзінокі ліст.**

Калісьці гэты жоўты ліст быў сакавіта-зялёны. Ён тады не кружыўся па свеце, а сядзеў на галінцы **побач з маладой румянай вішанькай.** Ён **кахаў яе ўсім сэрцам.**

А потым шчасце яго абарвалася. Вішанька **раптоўна знікла.**

Станавілася ўсё халадней, і ўсё лісце з дрэва абляцела. Толькі наш лісцік **заставаўся на галінцы.** Ён **чакаў,** што вішанька вернецца.

Вецер вырашыў дапамагчы сябру шукаць вішаньку. Ён дзьмухнуў мацней, і яны паляцелі. З таго часу наш лісцік кружыцца, блукае па свеце. Ён зусім змарнеў і стаміўся, але ўсё яшчэ шукае сваю вішаньку.

*Паводле Л. Куземчанкі*

● Складзіце і запішыце план тэксту. Спішыце выдзеленыя апорныя словы і словазлучэнні. Перакажыце тэкст па плане, выкарыстоўваючы апорныя словы.



*Змарне́ць* — схуднець, асунуцца (рус. *зачахнуть*).



**194.** Прачытайце, устаўце паміж аднароднымі членамі злучнікі *і, але.*

Марына апранула новую сукенку ... свае самыя лепшыя туфлікі. Дзяўчынка збіралася на дзень нараджэння да сваёй сяброўкі ... трошкі хвалявалася. Яна падрыхтавала для Алісы цікавы ... не зусім звычайны падарунак.

Некалькі тыдняў назад у Марынінай кошкі нарадзіліся смешныя ... мілыя кацяняткі. Яны ўвесь час круцяцца каля мамы ... ужо могуць жыць без яе. Адно з іх Марына выбрала ў падарунак сяброўцы. Напэўна, каток ёй спадабаецца.

- Спішыце першы абзац, ставячы, дзе трэба, коскі.
- Якімі членамі сказа з'яўляюцца аднародныя члены?

## НАЗОЎНІК. ПРЫМЕТНІК. ЗАЙМЕННІК

**195.** Прачытайце. Вызначце, гэта тэкст-апавяданне ці тэкст-апісанне.

### РАНІЦА Ў ВЁСЦЫ

У паветр.. яшчэ сыра. На лісцях вішняку вісяць буйныя кроплі начнога туман.. . На плат.. і стрэх.. ляжыць яшчэ вільгаць.

Узыходзіць сонца. Яно паволі і баязліва паказваецца з-за небасхілу. Першыя промні яго кладуцца шырока, густым і нібы цягучым золат.. .

*Паводле Я. Скрыгана*

- Спішыце, пастаўце прапушчаныя канчаткі назоўнікаў. Абазначце склон назоўнікаў.

**196.** Спішыце, пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне з прыназоўнікамі або без іх.

Дапамагчы *(сябар)*, дапамагчы *(парада)*, павіншаваць *(бабуля)*, павіншаваць *(свята)*, падзякаваць *(пачастунак)*, расказваць *(здарэнне)*, вярнуцца дамоў *(лес)*, сядзець *(канапа)*, сесці *(канапа)*, злавацца на сябе *(памылка)*, перакладаць *(слоўнік)*, дакрануцца *(ружа)*, наліць малако *(шклянка)*, выйсці *(аўтобус)*, пайсці да таварыша *(кніга)*.

● Над назоўнікамі абазначце іх склоны.

**197.** Прачытайце. Устаўце замест кропак патрэбныя прыназоўнікі. Запішыце словазлучэнні.

1. Падысці … Аліны.
2. Смяяцца … таварыша.
3. Сумаваць … мамы.
4. Зрабіць … брата.
5. Пашыць … скуры.
6. Расці … елкі.
7. Бегаць … школы.
8. Вярнуцца … верасні.

**Словы для даведкі:** *з, да, для, без, са, вакол, у, каля.*

**198.** Прачытайце. Выпішыце назоўнікі разам з прыметнікамі. Дапішыце канчаткі прыметнікаў.

Узор: *гарач[ы] поўдзень, высок[ія] сосны.*

## У ЛЕСЕ ЎЛЕТКУ

Добра ў лесе ў гарач.. поўдзень. Высок.. сосны развесілі ігліст.. верхавіны, а зялён.. елачкі выгінаюць свае калюч.. галінкі. Красуецца беластвольн.. бярозка з духмян.. лісточкамі. Дрыжыць шэр.. асіна. Каранаст.. дуб раскінуў шатром сваё разн.. лісце. З травы глядзіць беленьк.. вочка суніцы, а побач ужо чырванее духмян.. ягадка.

Дзесьці стукае дзяцел, жаласна крычыць жоўт.. івалга. Шэр.. зайчык шмыгнуў у кусты. Высока між галінкамі мільгануў пушыст.. хвост вавёркі.

● Спішыце першы абзац, устаўляючы прапушчаныя канчаткі прыметнікаў. Абазначце канчаткі прыметнікаў.

**199.** Прачытайце верш, устаўляючы замест кропак патрэбныя займеннікі.

### АГРЭСТ

Агрэст садзіла я вясной.
... ладзіць не хацеў са мной.
Ды ... на гэта не зважала,
... старанна даглядала.
Ну і было ж турботы з ... —
скалоў мне рукі ... зусім!
А потым ягадкі даспелі,
як безліч сонейкаў, ірдзелі.

Хоць шмат ... зведала турбот,
затое смачны быў кампот!
*А. Дзeружынскі*

● Спішыце першыя шэсць радкоў. Падкрэсліце ўстаўленыя займеннікі. Замест якіх слоў-назваў яны ўжытыя?



*Агрэ́ст* — рус. *крыжовник.*



**200.** Прачытайце. Пастаўце займеннікі ў патрэбным склоне.

Унук паказвае дзядулю свой дзённік. Стары кажа:

— Калі *(я)* вучыўся, у *(я)* па гісторыі былі адны пяцёркі. А ў *(ты)* чацвёркі ёсць.

— *(Ты)* лягчэй было, дзядуля. Калі *(ты)* вучыўся, гісторыя была карацейшая.

● Спішыце. Падкрэсліце займеннікі. Вызначце іх склон.

## ДЗЕЯСЛОЎ. ПРЫСЛОЎЕ

**201.** Прачытайце, пастаўце дзеясловы ў патрэбнай асобе і ліку цяперашняга часу.

Пясчаная каса *(уразацца)* далёка ў мора. На беразе *(расці)* рэдкія сосны. Зімою вятры *(дзьмуць)* амаль заўсёды з мора, таму галіны сосен нахілены ў бок берага.

Пясок тут залацістага колеру. Драбнюткія пясчынкі амаль нячутна *(прасочвацца)* між растапыраных пальцаў. За дзень пясок моцна *(награвацца)*. Ён нават не *(астываць)* за кароткую летнюю ноч.

*Паводле М. Даніленкі*

● Спішыце, раскрываючы дужкі. Абазначце канчаткі дзеясловаў цяперашняга часу.

● Знайдзіце ў тэксце і падкрэсліце прыслоўі. Вусна пастаўце да іх пытанні.

**202.** Прачытайце верш. Якія літары трэба ўставіць замест кропак?

Досыць снегу ўжо л..жаць.
Р..чка сонца чуе,
і пралескі не дрыжаць —
сонца іх ц..луе.

Хутка птушкі зап..юць,
сад агучаць пч..лкі,
а ў блакі..е расцвітуць
колеры в..сёлкі.

*Н. Слуцкая*

● Назавіце ў вершы дзеясловы: а) у неазначальнай форме; б) у форме цяперашняга часу; в) у форме будучага часу. Выпішыце іх у такім парадку.

● Запішыце першы абзац тэксту, ужываючы дзеясловы прошлага часу.



*Прысту́пка* — рус. *ступенька*.

**203.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце прыслоўі.

Гультай не любіць тры пары. Уранні — росна, удзень — млосна, увечары — камары.

*В. Вітка*

● Падбярыце сінонім да прыслоўя *ўранні.*



*Мло́сна* — дрэнна, нудна, моташна (рус. *тошно*).



**204.** Прачытайце. Якімі выразамі герой апавядання замяняў словы *я прайграў*?

Лявон вельмі любіў гуляць у шахматы. Шахматыст з яго быў так сабе, аднак ён яшчэ ніколі не **прызнаў**, што яго перамаглі.

Гуляў ён неяк з вядомым шахматыстам і **прайграў** яму тры партыі запар. Прыяцель запытаўся ў яго: «Ну як, дружа? Няўжо зноў прайграў?» Лявон не збянтэжыўся і бадзёра **адказаў**: «Першую партыю мой партнёр не прайграў, а другую партыю я ў яго не выйграў. У трэцяй партыі я хацеў **прапанаваць** нічыю, але ён не згадзіўся».

*Паводле Л. Куземчанкі*

● Вусна пастаўце выдзеленыя дзеясловы ў неазначальнай форме і вызначце іх спражэнне.

● Утварыце для кожнага з гэтых дзеясловаў форму 2-й асобы множнага ліку будучага часу. Запішыце гэтыя формы па ўзоры.

Узор: *прызнаць* — *прызна* *еце* .

# ЗМЕСТ

